№4(37)
2002г.
красавік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

Да 900-годдзя Барысава

## Гісторыя Барысава ў датах: ад 1102 года да нашых дзён

Чытайце на старонках 8-9

# Іншы твар старажытнага Барысава

30 сакавіка ў гарвыканкаме адбылася другая па ліку прэс-канферэнцыя старшыні гарвыканкама В.І.Бургуна з прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі Барысава. У канферэнцыі таксама брала ўдзел намесніца старшыні гарвыканкама В.М.Шутко.

Прыемна адзначыць, што гарадскія ўлады трымаюць сваё абяцанне зрабіць прэс-канферэнцыі для СМІ традыцыйнымі з перыядычнасцю не радзей раз на месяц. Такія мерапрыемствы маюць на мэце падрабязна і дакладна інфармаваць жыхароў горада па ўсіх пытаннях, звязаных з падрыхтоўкай да святкавання 900-гадовага юбілею горада.

Першая канферэнцыя па гэтай тэме адбылася 5 сакавіка. На ёй выступілі і адказалі на пытанні журналістаў старшыня гарвыканкама В.Бургун і дырэктар УП "Жыллё" В.Ільюшонак.

У сваёй прамове на прэс-канферэнцыі 5 сакавіка В.Бургун паведаміў, што на добраўпарадкаванне горада будзе выдаткавана 11 млрд.руб. Плануецца капітальна аднавіць 18 цэнтральных вуліц горада, цэнтральную плошчу, рынак старога

(Заканчэнне на стар.2)




**Да 900-годдзя Барысава, 210-годдзя падання гораду герба і поўнага магдэбургскага права засталося зусім мала часу**

Пра падрыхтоўку горада да юбілею чытайце на старонках 1 і 2
Пра тыя помнікі архітэктуры горада, што засталіся па-за межамі падрыхтоўкі да свята, чытайце на старонцы 11





# Да 900-годдзя горада

20 сакавіка ў СШ №1адбыўся семінар класных настаўнікаў школ горада. Усе мерапрыемствы гаспадары ладзілі пад знакам юбілею горада.Гасцям спадабалася і літаратурная гасцёўня настаўніцы Кулабухавай Н.Р., дзе гучалі вершы вучняў і настаўнікаў пра Барысаў, і класная гадзіна Ягоравай В.П., на якой вучні цікава апавядалі пра сваю вуліцу Нармандыя-Нёман, і вусны часопіс Сімановіч М.П. "Горад, у якім я жыву".

*М.Пучыла*

# З'ядзім булку з марцыпанам!

Час ад часу барысаўскія прамысловыя прадпрыемствы сустракаюць канкурэнтназдольнасць сваёй прадукцыі на міжнародным узроўні шляхам удзелу у замежных форумах і выставах. Прадпрыемства "Барысаўхлебпрам" нядаўна прымала ўдзел у міжнароднай выставе, якая праходзіла ў горадзе Брно (Чэхія).

Хлебазаводы Чэхіі, Аўстрыі, Германіі, Італіі дэманстравалі там хлеб, хлебабулачныя вырабы, а таксама тэхналагічнае абсталяванне, дасягненні рэкламнай дзейнасці.

Барысаўскія хлебапёкі выглядалі там калі не самым лепшым чынам, але і не горшым. Іх хлеб і хлебабулачныя вырабы па якасці аказаліся на ўзроўні іншых удзельнікаў выставы. Іншая справа, што пераняць у замежных калег таксама ёсць што. Пры выпечцы хлебабулачных вырабаў не выкарыстоўваюцца ў патрэбнай меры, напрыклад, дабаўкі кукурузы, насення сланечніку, якія надаюць хлебу непаўторныя смакавыя, а таксама вельмі карысныя для здароўя харчовыя якасці. Мала выпякаецца прысмакаў з выкарыстаннем садавіны, марцыпанаў, не выкарыстоўваюцца разнакаляровыя харчовыя фарбы пры аздабленні вырабаў. Пераўзыходзяць заходнія хлебапёкі і ў эстэтыцы аддзелкі хлебабулачных вырабаў, іх упакоўцы.

Але ж нашы майстры ездзілі на выставу таксама і для таго, каб навучыцца і ў хуткім часе парадаваць барысаўцаў навінкамі сваёй прадукцыі, надзеленай усімі прыкметамі і атрыбутамі еўрапейскай якасці.

*А.Турко*

# Не паліце траву

Ранняя вясна адметная тым, што прырода як бы спынілася перад пачаткам свайго чарговага веснавога развіцця. Часам прыходзіцца назіраць сумныя краявіды з леташняй травой, мінулагоднім лісцем.

Ёсць аматары вогнішчаў, што любяць любавацца, як гарыць сухая трава ды лісце. Яны гатовы патлумачыць, што гэта нават карысна прыродзе.

Не спяшайцеся браць з іх прыклад. Ва ўмовах горада – гэта атручванне паветра, чысціні якога і так не хапае. Мала таго, даўно даказана, што ў агні згарае не толькі трава, а і верхні, самы пладародны пласт глебы – гумус.

Акрамя гэтага, трэба ведаць, што старая трава, лісце, іншы подсціл дае спажыву новай траве, дрэвам і кустам. У вядомых парках, скверах нават пакідаюць гэты подсціл як заруку існавання насаджэнняў.

Давайце будзем разумнымі!

*М.Пучыла*

Да 900-годдзя Барысава

*Чытайце ў бліжэйшых нумарах нашай газеты:*

## "Замкі Барысава"

*Барысаў у сваёй гісторыі меў тры замкі на левым беразе Бярэзіны і бастыёны на яе правым беразе. Усе яны будаваліся ў розныя часы і з'яўляліся адбіткам свайго часу. Апошнім часам з'явілася шэраг публікацый на гэту тэму. Але пра барысаўскія замкі сказана яшчэ далёка не ўсё...*

## "Горад, згублены ў часе"

*Мы ведаем, што ўяўляе Барысаў зараз. Маем дастаткова звестак аб тым, як выглядаў Барысаў у XIX - пачатку XX стагоддзя. Дзякуючы раскопкам вядома, як выглядаў наш горад на самым пачатку свайго існавання - у XII стагоддзі. Аднак няма ніводнай публікацыі і мы амаль нічога не ведаем пра тое, што ўяўляў сабою Барысаў у XVI - першай палове XVII стагоддзя. Тыя ж уяўленні аб тагачасным Барысаве, што існуюць, шмат у чым памылковыя.*

*XVI - першая палова XVII стагоддзя - час росквіту нашага горада. Тагачасны Барысаў - гэта горад з зусім іншай планіроўкай, архітэктурай і шмат у чым іншымі жыхарамі.*

*Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе:* ***пр-т Рэвалюцыі, 33***
*Чакаем вас у* ***аўторак*** *з* ***15*** *па* ***17*** *гадз.,*
*у* ***чацвер*** *з* ***10*** *па* ***11*** *гадз.*
*У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне*
***6-35-81***
*або ў іншы час па тэл./факсу*
***9-56-86***

***Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!***
***Падпісны індэкс 64184***
***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - 250 руб., на 3 месяцы - 750 руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - 550 руб., на 3 месяцы - 1650 руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на 1 месяц - 350 руб., на 3 месяцы - 1050 руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на 1 месяц - 750 руб., на 3 месяцы - 2250 руб.

## Ад нумара да нумара

**Прызначэнне**
*Дырэктар завода "Аўтагідраўзмацняльнік" А.А.Пухавы прызначаны на пасаду генеральнага дырэктара Менскага трактарнага завода.*

**Падаткі**
*Згодна закону Рэспублікі Беларусь у два разы павялічаны стаўкі падатку на карыстанне зямлёй. Гэта датычыцца як арганізацый, так і прыватных карыстальнікаў.*

**Суботнік**
*23 сакавіка ў горадзе адбыўся суботнік, у якім прынялі ўдзел 19,7 тыс.чал. Грошы, зробленыя на суботніку (57,3 млн.руб.), будуць пералічаны ў фонд дапамогі сялу.*

**Дзень Волі**
*24 сакавіка на "Батарэях" адбыўся мітынг з нагоды 74-ай гадавіны стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У імпрэзе ўзялі ўдзел каля 100 чалавек: прадстаўнікі маладзёвага руху "Зубр", БНФ і іншыя прыхільнікі незалежнасці Беларусі. Госцем барысаўцаў быў вядомы беларускі бард Андрэй Мельнікаў, які спяваў для ўдзельнікаў імпрэзы.*

**Гадавіна**
*5 красавіка спаўняецца 7 гадоў з дня заснавання ў нашым горадзе арганізацыі аховы праў спажыўцоў "Бар'ер". За гады працы гэтая грамадская арганізацыя нямала зрабіла для паляпшэння жыцця гараджан і карыстаецца ў іх заслужаным аўтарытэтам.*

**Затрымка**
*У сакавіку многія барысаўскія пенсіянеры ўпершыню не ў свой час атрымалі пенсійную дапамогу. Старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Ф.Вітко адзначае, што ў красавіку і траўні можна чакаць больш сур'ёзных затрымак з выплатай пенсій.*

**Рэйд**
*15 лютага сацыяльнымі педагогамі горада сумесна з праваахоўнымі органамі быў праведзены агульнагарадскі рэйд "Увага! Праблемная сям'я". За дзень было наведана 113 сем'яў, дзе бацькі часта бываюць у нецвярозым стане і нідзе не працуюць. Выяўлена 18 сямей, якім патрэбна тэрміновая матэрыяльная дапамога. У 2 сем'ях вырашана пазбавіць бацькоў права выхоўваць дзяцей, бо іншыя меры ўздзеяння не дапамагаюць і жыццё дзяцей знаходзіцца пад пагрозай.*

**Падарунак**
*4 паліклініка атрымала ў падарунак ад маскоўскага прадпрыемства "Вымпел" новы бясплёначны апарат для флюараграфічнага абследавання, які дазволіць зменшыць у некалькі разоў дозу апраменьвання пацыентаў і пазбегнуць выдаткаў на пленку і хімічныя рэактывы. Вынікі абследавання адразу апрацоўваюцца на кампутары і захоўваюцца ў базе дадзеных.*

**Латэрэя**
*Да юбілею горада арганізавана латэрэя "900 гадоў Барысаву", розыгрыш якой адбудзецца напярэдадні свята, 29 чэрвеня. Кошт білетаў, якія можна набыць у гандлёвых кропках, - 1000 рублёў.*

**Акцыя**
*З нагоды Дня Волі ў горадзе былі вывешаны бел-чырвона-белыя сцягі: адзін на будынку палітэхнікума, другі – на цэнтральнай плошчы. Імёны барысаўскіх "Міронаў" невядомыя.*

**Здарэнні**
*30 сакавіка на паўдня быў перапынены рух цягнікоў паміж Барысавам і Жодзіна. Прычына таму - здарэнне, якое адбылося на гэтым участку дарогі і прывяло да пашкоджання чыгуначных шляхоў.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***

*13 сакавіка: у гістарычным цэнтры Барысава знішчаны чарговы будынак (фота знізу). Напярэдадні 10 сакавіка ля кінатэатра "Перамога" адбыўся пікет, у якім прыняло ўдзел больш за паўсотні чалавек. На ім было сабрана каля 300 подпісаў у абарону старых будынкаў гістарычнага цэнтра горада.*



*Апошнім часам пачаліся работы па атынкоўцы старых будынкаў у гістарычным цэнтры Барысава (гл. фота зверху). Пры гэтым дамам не толькі надаецца не характэрны для іх выгляд, але нярэдка знішчаюцца адметныя элементы дэкору.*

# Іншы твар старажытнага Барысава

**(Заканчэнне. Пачатак на стар.1)**

горада, плошчу перад Васкрасенскім саборам, прывесці ў парадак 96 тыс. кв.м фасадаў. У горадзе будзе пакладзена 65 тыс.м пліткі, 3800 т асфальту, 30 км бардзюраў. Будзе рамантавацца вакзал і прывакзальная плошча, пачалася рэканструкцыя праспекта Гагарына, дзе будзе зроблена 4 паласы руху. Ідзе рэканструкцыя аўтазапраўкі на праспекце Гагарына, 700 млн. руб. будзе ўкладзена ў замену электрычных ліній. Праводзіцца інвентарызацыя прыватнага жылога сектара, домаўладальнікаў абавязваюць добраўпарадкаваць сядзібы і акаляючую тэрыторыю. У пойме Бярэзіны насупраць завода агрэгатаў закладваецца новы парк. Праведзена рэканструкцыя чыгуначных пераездаў.

Тэрмін правядзення свята вызначаны арыентыровачна на 30 чэрвеня – 2 ліпеня. Чакаецца прыезд кіраўніка дзяржавы. Кульмінацыйным момантам свята з'явіцца адкрыццё помніка князю Барысу ля Васкрасенскага сабора.

Рыхтуецца шырокая культурная праграма свята, праводзіцца шмат конкурсаў. Зацверджаны герб і сцяг горада. Будзе выдадзена кніга аб горадзе аб'ёмам 200 старонак, карта горада і раёна, канверты з сімволікай. Рыхтуецца стэнд новых тавараў, якія выпускаюцца да юбілею прадпрыемствамі горада.

Застаецца неакрэсленым пытанне з выпускам юбілейных значкоў. Заводам металавырабаў будзе выпушчаны посуд з сімволікай, а фабрыкай прыкладнога мастацтва – адмысловыя керамічныя вырабы. Менскі гадзіннікавы завод мае намер выпусціць гадзіннікі з сімволікай Барысава.

Складаную праблему аднаўлення цэнтра старога горада гарадскія ўлады вырашылі проста. Каб не мець лішніх турбот з захаваннем гістарычнай спадчыны горада, усе будынкі, якія мелі статус помнікаў архітэктуры, акрамя касцёла, сабора і будынка былога казначэйства, аб'яўлены не маючымі гістарычнай каштоўнасці. Цяпер можна не цырымоніцца з рознай старызнай: захацеў – адрамантаваў, захацеў – знішчыў.

Старшынёю гарвыканкама адзначана пасіўнасць барысаўцаў у справе падрыхтоўкі да свята. За год ад гараджан сабрана 85 млн. руб., а планавалася збіраць па 71 млн.руб. штомесячна.

Гэта сапраўды сумна. Але на якую актыўнасць жыхароў горада можна разлічваць, калі ўсё, што ім дазволена зрабіць для свайго горада, – гэта выкласці грошы. Астатнія пытанні вырашаюцца без іх удзелу, без іх згоды, і не дапускаецца нават думкі, што барысаўцы "могут сметь своё суждение иметь".

Другая прэс-канферэнцыя пачалася адразу з пытанняў журналістаў. Першае пытанне пра тое, што будзе зроблена ў працэсе рэканструкцыі горада для прыстасавання нашых вуліц, месцаў грамадскага карыстання і грамадскага транспарту для патрэб інвалідаў старшыня гарвыканкама палічыў не зусім тактоўным, маючы на ўвазе, што журналісты надта многага хочуць адразу. А гэта не ў яго, простага мэра, магчымасцях. Але дзе-нідзе з'езды для інвалідаў усё ж такі паабяцаў.

Распрацавана праграма рэканструкцыі Дымак, а пакуль што там прыступілі да замены электрычных апор. На пытанню прывядзення ў парадак прыватнага сектара мэр адзначыў, што многія жыхары не спяшаюцца прывесці ў парадак свае сядзібы, прычым гэта, як правіла, маладыя людзі. Старэйшае пакаленне праяўляе больш энтузіязму.

Мэр таксама паведаміў, што прынятая ў лютым пастанова аб выкарыстанні інвестыцыйных фондаў для падрыхтоўкі да юбілею пачало даваць вынікі. Грошы, якія пералічваюць прадпрыемствы горада, не ідуць у Менск, а застаюцца ў горадзе.

Валянціна Мікалаеўна Шутко інфармавала журналістаў па пытаннях арганізацыі турыстычных маршрутаў, якія будуць распрацаваны пры ўдзеле барысаўскіх турыстычных фірм, пра выпуск сувенірнай прадукцыі, у тым ліку маек з сімволікай Барысава. Падрыхтаваны лагатыпы для выпуску такой прадукцыі.

Па пытанню: "Чаму ў горадзе цёмна?" мэр параіў звярнуцца ў гарадскія электрасеткі, а з свайго боку адзначыў, што ў Барысаве зусім не цёмна, а наадварот, вельмі светла у параўнанні з Маладзечна, дзе ноччу зусім адключаюць элекрычнае асвятленне на вуліцах. Што ж, калі будзем брысці па цёмных вуліцах, будзем радавацца хаця б таму, што жывём не ў Маладзечне.

В.Бургун назваў прадпрыемствы, працаўнікі якіх пералічылі значную суму грошай на падрыхтоўку да юбілею. Гэта завод "Аўтагідраўзмацняльнік" (38 млн.руб) і "Барымед" (14 млн.руб.). У ліку пасіўных да гэтай справы калектываў былі названы працаўнікі крышталёвага завода, завода "Чырвоны металіст", леспрамгасу і шэрагу іншых.

Вялікую падзяку выказаў старшыня гарвыканкама будаўнікам, працоўны дзень якіх доўжыцца зараз ад цямна да цямна. Акрамя барысаўцаў, на рэканструкцыі горада працуюць спецыялісты з іншых гарадоў Меншчыны, у прыватнасці, з Жодзіна, Менску, Заслаўю.

"Горад у дні свята будзе мець іншы твар,"– паабяцаў мэр. Хочацца спадзявацца, што за гэты новы твар старажытнага Барысава не прыйдзецца чырванець яго жыхарам.

***Служба інфармацыі "ГБ"***



## Сход былых вязняў

Больш за 200 былых вязняў сабралася 28 сакавіка на сход гарадской арганізацыі БАБМВФ у вялікай залі Палаца культуры. На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі Рэспубліканскага фонду "Узаемапаразуменне і прымірэнне", гарадскога і раённага аддзелаў сацыяльнай абароны насельніцтва, рэспубліканскай рады БАБМВФ.

На Барысаўшчыне жыве 1624 былых вязні фашызму. З кожным годам іх становіцца ўсё менш. Доўгія гады былыя вязні не мелі падтрымкі ад дзяржавы, не маглі сабрацца разам. Цяпер яны маюць такую магчымасць, але ... толькі на кватэры свайго старшыні Э.П.Гедройца. Гарадскія ўлады не спяшаюцца дапамагчы былым вязням з памяшканнем для арганізацыі, займаючы назіральную пазіцыю.

Магчыма, яны лічаць, што былыя вязні сталі вельмі багатымі, атрымаўшы выплаты ад нямецкай дзяржавы. Але і выплаты тыя не надта вялікія, і , урэшце рэшт, галоўнае, што патрэбна людзям, жыццё якіх скалечыла вайна, гэта наша цеплыня і павага...

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Праваслаўна-педагагічная канферэнцыя

28 сакавіка ў палацы культуры завода БАТЭ адбылася праваслаўна-педагагічная канферэнцыя пад знакам 900-годдзя г.Барысава і першай святой на ўсходнеславянскіх землях Еўфрасінні Полацкай. Прысутнічалі дэлегаты ад усіх устаноў горада, раёна, госці з Жодзіна.

Вёў мерапрыемства Мітрапаліт Філарэт. Задачай, якую ставіла перад сабой канферэнцыя, было выкарыстаць вопыт праваслаўнай царквы ў працы з маладым пакаленнем.

***М.Пучыла***

## Трывожны паказчык

Па дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу на 1.01.2002 г. колькасць беларускага насельніцтва склала 9 млн. 951 тыс. чалавек. Так, за 2001 год беларусаў паменела прыкладна на 39 тыс. чалавек, г.зн. на 0,4 %.

***А.Шустоўскі***



# Барысаўскі пчаляр Віктар Баброўскі

Пра кожнага чалавека людзі мяркуюць па яго справах.

За свае 72 гады жыцця пчаляр-аматар з 36-гадовым стажам барысаўчанін Віктар Сцяпанавіч Баброўскі акрамя ўсяго іншага 46 гадоў прапрацаваў на "Белкаапсаюзе" памочнікам майстра, за што ўзнагароджаны 12 граматамі.

Мёд, які пад доследным наглядам Віктара Сцяпанавіча збіраюць пчаліныя сем'і, заўжды вышэйшай якасці. Таму шмат хто аддае перавагу мёду, купленаму ў спецыялістаў, якія ўкладаюць у прамудрасці пчалярства немалыя веды, належны талент і энергію душы.

Муж і жонка Баброўскія маюць замужнюю дачку, унука.

Здароўя Вам, нястомныя працаўнікі-пенсіянеры, поспехаў ды ціхай спакойнай старасці зычу я…

*Алесь Шустоўскі.*

*На здымку: муж і жонка Баброўскія на сваёй пасецы, якая налічвае 15 вулляў.*

# Прамысловы дызайн: актуальна і сучасна

*У выставачнай зале Цэнтральнай гарадской бібліятэкі з сярэдзіны сакавіка працуе выстава прамысловага дызайну, прысвечаная Барысаўскаму дрэваапрацоўчаму камбінату імя Камінтэрна – яго мінуламу і сучаснаму.*

Акрамя асноўнага – дызайнерскага – выстава мае яшчэ краязнаўчы, гістарычны аспекты. У ёй адлюстравана развіццё Барысаўскага ДАКа з 1906 года. Вельмі цікава і тое, што асноўныя экспанаты – мэблевая прадукцыя камбіната – пры афармленні выставы надта арганічна спалучыліся з жывапісам і творамі прыкладнога мастацтва мясцовых майстроў.

Акрамя эстэтычнага, выстава мае яшчэ і прыкладное значэнне. Наведвальнікі знойдуць там літаратуру па прамысловаму дызайну, тэхнічнай эстэтыцы. Ёсць на выставе нямецкія, італьянскія каталогі з апошніх выставаў прамысловага дызайну, якія праходзілі ў Беларусі і за яе межамі. Адным словам, тыя людзі, якія цікавяцца ўсімі гэтымі пытаннямі прафесійна, знойдуць для сябе на выставе шмат карыснага. Выстава ўжо зацікавіла многіх прадстаўнікоў камерцыйных структур, бо тут можна ўбачыць узоры офіснай мэблі, пазнаёміцца з каталогамі прадукцыі Барысаўскага ДАКа.



Фрагмент экспазіцыі выставы

Гэта цяпер дрэваапрацоўчы камбінат уяўляе сабой сучаснае, добра абсталяванае, канкурэнтназдольнае прадпрыемства. А ў 1906 годзе на тэрыторыі цяперашняга камбіната фабрыкантам Бергманам былі пабудаваныя лесапільны, стружачны і бандарны цэхі. Гэта былі пабудовы барачнага тыпу, халодныя, з дрэнным асвятленнем. Усяго на прадпрыемстве ў той час працавала 500 чалавек рабочых. Умовы працы былі цяжкія, нізкія заробкі, 12-гадзінны рабочы дзень. У 1917 годзе завод амаль цалкам згарэў, а потым быў адноўлены.

Другі раз усе заводскія цэхі з іх абсталяваннем былі разбураны ў час Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны ў першую чаргу былі адноўлены лесапільны цэх і кацельная гаспадарка.

У 60-ыя гады камбінат набыў рэспубліканскае значэнне і стаў спецыялізавацца па выпуску піламатэрыялаў, вырабаў дрэваапрацоўкі, мэблі розных прызначэнняў. У 70-ыя гады важнай вехай развіцця прадпрыемства стаў удзел у міжгаліновай выставе ў Польшчы. Наступныя дзесяць год характарызаваліся ўступленнем у строй цэха драўнінастружкавых пліт, асваеннем выпуску мэблевага набору "Віёла", якому быў прысвоены дзяржаўны знак якасці.

У 90-ых гадах камбінат змяніў статус і стаў народным прадпрыемствам.

На выставе "Мэбля-97", якая праходзіла ў сталічным выставычным комплексе "Мінск-экспа", мастацкі савет прысудзіў першае месца экспазіцыі Барысаўскага мэблевага камбіната.

Выставу "Барысаўскі ДАК – мінулае і сучаснае" наведваюць людзі самых розных інтарэсаў, прафесій і ўзростаў. Шырокае кола наведвальнікаў выстава прыцягвае, дзякуючы сваёй разнапланавасці і відовішчнасці. Вось які запіс у кнізе наведвальнікаў пакінулі вучні 9 "Г" класа 8 СШ: "Дзякуем за выставу. Мэбля вельмі спадабалася. Але хацелася б мець такую і ў нашай школе. Дык будзе ласкавыя, выдзеліце нашай школе некалькі добрых сталоў."

Засталося яшчэ сказаць, што ўваход на выставу бясплатны, і яна будзе яшчэ прадоўжана ў Доме культуры дрэваапрацоўчага камбіната.

*А.Турко*

# "Не хачу вучыцца…"

*Часам, асабліва вясной, нават у самых старанных дзетак узнікае жаданне прагуляць заняткі, адпачыць ад нялёгкай школьнай працы. Як дапамагчы вучням не згубіць цікаўнасць да вучобы, вучыцца з ахвотай – клопат настаўнікаў і бацькоў. Але калі справа даходзіць да таго, што пропускі заняткаў становяцца сістэматычнымі і высілкі педагогаў вярнуць падлетка ў школу не маюць выніку, прыходзіцца звяртацца да дапамогі праваахоўных органаў.*

Інспектар камісіі па справах непаўнагадовых **Ігар Мікалаевіч Гарнастай** мае 7-гадовы досвед працы з падлеткамі, добра ведае свой участак, які знаходзіцца ў старой частцы горада на тэрыторыі ад вуліцы Савецкай да райбальніцы.

Ён расказвае: "У параўнанні з тым часам, калі я прыйшоў працаваць на ўчастак (гэта было ў 1995 годзе), сёння становішча з падлеткавай злачыннасцю значна лепшае. У маім раёне тады было 25 падлеткаў, якія былі прыцягнуты да адказнасці. На сённяшні дзень такіх падлеткаў у раёне чатыры.

Чаму мы ўважліва сочым за наведваннем вучнямі школы? Агульнавядома, што ў нас ёсць закон аб абавязковай адукацыі, які патрабуе прыцягваць да адказнасці бацькоў, дзеці якіх ухіляюцца ад вучобы. Пачынаем з таго, што па тэлефоне альбо пры асабістым наведванні папярэджваем бацькоў. Калі гэта не дапамагае, робіцца пісьмовае папярэджанне, і, урэшце, складаецца пратакол аб адміністратыўным парушэнні, і на бацькоў накладаецца штраф.

Пропускі падлеткамі заняткаў цесна звязаны з праблемай падлеткавай злачыннасці. Куды ідзе падлетак, які цішком ад бацькоў прагульвае ўрокі? У падвалы, на гарышчы ці бадзяецца па вуліцах як мага далей ад школы. Там ён лёгка можа апынуцца ў нядобрай кампаніі, а кажучы афіцыйнай мовай, у злачынным асяродку.

Узрост падлеткаў, якія прапускаюць заняткі, у асноўным 12 – 17 гадоў. Чаму падлетак пачынае прагульваць урокі? Тут ёсць розныя прычыны. Дзеці, якія растуць у сем'ях, дзе бацькі вядуць асацыяльны лад жыцця, практычна прадастаўлены самі сабе і складаюць значную частку такіх падлеткаў.

Але трэба адзначыць, што не менш часта прыходзіцца займацца з дзецьмі са знешне нармальных сем'яў. Часта падлетка зводзяць сябры. Бывае, што ён не хоча ісці ў школу, бо там ёсць нейкая група вучняў, якія яго тэрарызуюць, вымагаюць грошы. Падлетак замыкаецца ў сабе, баючыся паскардзіцца бацькам ці настаўнікам, і лічыць за лепшае проста не ісці ў школу.

Часам пропускі заняткаў пачынаюцца з дробязі. Падлетак атрымаў дрэнную адзнаку і баіцца ісці дадому, дзе яго пакараюць, і ў школу на наступны дзень яму таксама не хочацца ісці. Патрапіўшы на вуліцу, дзе прывольна і лёгка, падлетак пачынае прапускаць заняткі ўсё часцей.

Калі бацькі нічога не заўважа-

*(Заканчэнне на стар.4)*

# Дамок на Заводскай

*Занядбаныя дамкі – не рэдкасць на барысаўскіх вуліцах. І ў кожнага такога кінутага дамка – свая гісторыя і, вельмі часта, свая трагедыя.*



Своеасаблівы лёс у дамка, што стаіць ля дзесятай школы на Заводскай вуліцы

Доўгія гады жыла ў ім Жаўняровічыха, адзінокая жанчына, мяккая, ціхая і ветлівая. У двары дома, здавалася, не было месца ні гурку, ні кропу, бо ад плота да плота там буялі кветкі. Ад вясны да глыбокай восені. Гаспадыня патроху імі гандлявала, але гэта не было для яе промыслам. Кветкі яна проста любіла. Асабліва раскошна выглядаў дворык дома ў пачатку восені, калі пачыналі цвісці вяргіні і іншыя буйныя кветкі. Яны зусім хавалі дамок, узвышаліся па-над плотам, і нам, школьнікам, здавалася, што тут жыве казачная фея, бо простыя людзі садзяць шмат бульбы і крыху кветак, а жыць сярод адных кветак можа толькі чараўніца.

Калі жанчына памерла, прыехаў нейкі далёкі родзіч і, каб доўга не шукаць пакупнікоў, прадаў, а мо і аддаў дамок цыганам.

Пачалося ў ім новае жыццё, шумнае, шматлюднае. У двары паліліся кастры, бегалі гарэзлівыя дзеткі. Не стала тут не толькі кветак, але і наогул ні травінкі.

Здавалася, сам лёс помсціў гэтаму дворыку за шматгадовае цвіценне – галізною і занядбанасцю.

Але самае сумнае ў дамка было наперадзе. Нажыліся ў ім вясёлыя жыхары і зніклі. Цяпер ён стаіць кінуты, з вокнамі, зацягнутымі падранай цыратай, і павольна памірае.

Ці не былі толькі казачным сном тыя шчаслівыя гады, тое цвіценне, тая раскоша?

*Е.Граковіч*

# Не лекцыямі адзінымі…

*Няма сумнення ў тым, што студэнцкія гады навучэнцам Барысаўскага медвучылішча запомняцца як найлепшыя і найцікавейшыя ў жыцці. Бо жыццё для іх – гэта не толькі лекцыі, практыкумы ды семінары, а яшчэ і цудоўнейшая магчымасць для кожнага праявіць свае таленты, самарэалізавацца.*

У канцы лютага ў вучылішчы прайшоў конкурс медыцынскага майстэрства па спецыяльнасці "сястрынская справа". Пяць яго пераможцаў – Кацярына Макарская, Антон Бліноў, Юлія Кузняцова, Кацярына Сазонава і Аляксандр Ягораў – цяпер старанна рыхтуюцца да рэспубліканскага конкурсу навучэнцаў медыцынскіх навучальных устаноў, які пройдзе ў траўні.

Знакамітая ў Барысаве каманда "Клуба вясёлых і знаходлівых" выступала ў прэм'ер-лізе беларускага КВЗ, выглядала нябляга на гэтых спаборніцтвах і прывезла дамоў дыплом. А 13-га сакавіка адважныя рыцары гумару з каманды медвучылішча скрыжавалі шпагі з камандай політэхнічнага каледжа.

Не паспелі яшчэ ўлегчыся пачуцці ад гэтых "знамянальных" падзей, як зноў надышла гадзіна пік для актыўных, жыццярадасных і здольных студэнтаў. 20 сакавіка ў вучылішчы праходзіў конкурс на званне "Міс Здароўе". Яе ўдзельніцы Марына Скуратовіч, Юлія Пажанкова, Ірына Краўчанка, Вольга Пяценькіна, Надзея Пузанкевіч і Настасся Бабецкая прайшлі сур'ёзнейшыя выпрабаванні ў цэлым шэрагу конкурсных этапаў.

Дзяўчаты спрабавалі рыхтаваць стравы, якія былі настолькі карыснымі для здароўя, наколькі і смачнымі. На вачах у гледачоў удзельніцы стваралі вобраз медсястры будучага, састаўлялі кампазіцыі з лекавых траў і дэманстравалі сваю эрудыцыю ў галіне фітатэрапіі.

Журы ацэньвала выступленні ўдзельніц з усёй сур'ёзнасцю і строгасцю. А проста гледачы, бясспрэчна, былі ўпэўнены ў тым, што кожная з гэтых прыгожых і разумных дзяўчат дастойна звання "Міс Здароўе".

І застаецца толькі дадаць, што яны мелі рацыю.

*А.Турко*

# Служба, неабходная як паветра

*23 сакавіка метэаролагі і гідролагі адзначылі сваё прафесійнае свята – Міжнародны дзень метэаролага. Мала хто з гараджан ведае, што метэаслужба Барысава мае гісторыю, якая цягнецца з XIX стагоддзя.*

*Гідролаг М.Захар'віч бярэ замер тэмпературы вады ў р.Бярэзіне*

Метэаназіранні ў нашым горадзе распачаліся ў 1894 годзе пры чыгуначнай станцыі Барысаў. Яны вяліся бесперапынна да 1916 года, пасля чаго былі ўзноўлены ў 1924 годзе і пасля таго ўжо не спыняліся. У час Айчыннай вайны, у 1942-1944 г.г., назіранні вяліся нямецкімі метэаролагамі па нямецкіх прыборах. У 1961 годзе метэастанцыя з Новабарысава перабралася ў больш вольнае месца, на поўнач старога горада, дзе знаходзіцца і зараз, у сціплым дамку на вуліцы Прышвіна.

Ля ўваходу ў памяшканне станцыі вас сустрэне памочнік, ахоўнік і сябра метэаролагаў – сабака Шэрыф. Ва ўтульных пакоях размешчаны неабходныя прыборы і камп'ютар, па якому звесткі, сабраныя работнікамі станыі 8 разоў на суткі, перадаюцца ў Менск.

Калектыў, які складаецца з пяці метэаролагаў, узначальвае Вольга Фядотаўна Лузіна, вопытны спецыяліст з вышэйшай адукацыяй. Вольга Фядотаўна працуе ў метэаралогіі з 1965 года. У тым, што Барысаўская метэастанцыя лічыцца лепшай на Меншчыне, немалая яе заслуга.

Бесперапынна, змяняючы адна другую праз 12 гадзін, вядуць назіранні дзяжурныя метэаролагі Тамара Карлаўна Мыцько, Марыя Станіславаўна Калеснік, Ніна Васільеўна Захарэвіч, Валянціна Станіславаўна Латыгалец. Кожныя тры гадзіны яны робяць замеры тэмпературы паветра і глебы, атмасфернага ціску, вільготнасці паветра, хуткасці і напрамку ветру, воблачнасці, бачнасці. Вызначаюць характар воблачнасці, узімку назіраюць за шэранню і галалёдам. Акрамя таго, зімой вядзецца назіранне за ступенню прамярзання глебы, за шчыльнасцю, вышынёю і характарам залягання снежнага покрыву, запасамі вільгаці ў снезе. Аграметэаролаг Ірына Рыгораўна Бурак праводзіць адмысловыя назіранні не толькі ў межах станцыі, але і на палях раёна, дзе сочыць за тым, як зімуюць у глебе азімыя, якімі запасамі вады багатая глеба ў розную пару года. Па выніках назіранняў складаюцца даклады ў райвыканкам, якія выкарыстоўваюцца працаўнікамі сельскай гаспадаркі раёна.



*На метэапляцоўцы станцыі. Т. Мыцько вызначае тэмпературу і вільготнасць паветра*





*Будынак метэастанцыі на вуліцы Прышвіна (злева)*

*Шэрыф - ахоўнік і сябра метэаролагаў (знізу)*

У звязцы з метэаролагамі працуе гідролаг Міхаіл Міхайлавіч Захарэвіч, які вядзе пастаянныя гідралагічныя назіранні за станам ракі Бярэзіны. 2 разы на суткі, раніцой і ўвечары, у любое надвор'е ідзе ён на пост, які месціцца на рацэ паблізу ад чыгуначнага маста. Гідролаг сочыць за ўзроўнем і тэмпературай вады, праз пэўны час робіць замеры расходу вады. Ён першы заўважыць набліжэнне паводкі, вызначыць таўшчыню лёду, моцнасць снежнага покрыву на скаванай ільдом рацэ. Як і дадзеныя аб стане паветра, дадзеныя гідралагічных назіранняў рэгулярна перадаюцца ў рэгіянальны гідраметцэнтр у Менск.

Без вынікаў метэаралагічных і гідралагічных назіранняў не абыходзяцца спецыялісты МНС, лясніцтва, многія іншыя гарадскія і раённыя службы. 15 арганізацый Барысаўшчыны звяртаюцца да метэаролагаў за дадзенымі, 9 з іх працуюць са станцыяй на пастаянных дагаворах.

Гідраметэаслужба працуе без перапынкаў і выхадных. Яе асноўны клопат – стан паветранага і воднага асяродку. Дзейнасць службы, як і паветра, якім яна займаецца, - нябачная, але жыццёва неабходная ўсім людзям.

***Е.Гракові***

# Прыляцелі шпакі, дзень вясёлы такі...

Метэаролагі абяцаюць нам сёлета надвычай спякотнае і засушлівае лета. Мабыць, яны маюць рацыю, бо гэтай вясною вельмі рана, ужо ў сярэдзіне сакавіка вярнуліся на радзіму шпакі. Гэта на 2-3 тыдні раней звычайнага.

Прыляцеўшы і трохі адпачыўшы, гаспадары пачалі чысціць шпакоўню, выкідаючы рэшткі леташняга гнязда і тое смецце, якое нацягалі ў шпакоўню зімовыя кватаранты. Праз некаторы час шпакі зніклі - паляцелі на палі як след падсілкавацца пасля доўгага шляху.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

# "Не хачу вучыцца..."

*(Заканчэнне. Пачатак на стар.3)*

юць, гэта звычайна скончваецца тым, што падлетак уцягваецца ў вулічную кампанію і, у рэшце рэшт, пачынающа непрыемнасці. Ці сам ён становіцца ўдзельнікам нейкіх нядобрых спраў, ці можа стаць ахвярай злачынцаў, бавячы час па патаемных месцах.

Таму вельмі важна, каб бацькі ўважліва сачылі за тым, як наведваюць школу іх дзеці, часцей самі бывалі ў школе, размаўлялі з педагогамі. З другога боку, не трэба надта жорстка ставіцца да дзяцей. Падлетак не павінен баяцца ісці дадому. Што б у яго ні здарылася, хай сваю бяду ён нясе бацькам, а не на вуліцу.

Раён наш адносна спакойны. У ім вялікую частку займае прыватны сектар, дзе людзі ведаюць адзін аднаго, і там працаваць лягчэй. Раён шматпавярховак – больш неспакойнае месца.

Вялікае значэнне мае і тое, як пастаўлена выхаваўчая праца ў школе. Там, дзе ёсць добры сацыяльны педагог, праблем узнікае менш. У раёне тры школы. У 9-ай школе, дзе сацыяльным педагогам працуе Абадкоў М.А., праблемы, як правіла, вырашаюцца ў межах школы. У 17-ай школе таксама кантроль за вучнямі добра наладжаны. Больш усяго клопату дастаўляе вялікая па колькасці вучняў 23-яя школа.

Інспектар па справах непаўнагадовых працуе ў цеснай звязцы з участковым міліцыянерам, з камісіяй па справах непаўнагадовых гарвыканкама, з участковымі медыкамі, якія, наведваючы сем'і, заўважаюць, дзе дзеці жывуць у дрэнных умовах і ім патрабуецца дапамога.

На жаль, не заўсёды ўдаецца прадухіліць бяду. У раёне ВА "Экран" жыве сям'я: маці з двума непаўнагадовымі дзецьмі і яе бацькі. Маці часта выпівае, нідзе не працуе. Безнаглядны трынаццацігадовы сын пачаў знікаць з дому.

Тым часам у раёне пачалася цэлая серыя рабаўніцтваў. Гэтай справай занялася міліцыя, і высветлілася, што разам з двума больш дарослымі дзецюкамі ў гэтых злачынствах браў удзел хлопец з гэтай сям'і. Зараз ён асуджаны і накіраваны ў спецшколу.

Між тым досвед працы паказвае, што падлетак пасля адбыцця тэрміну ў спецшколе да нармальнага жыцця вяртаецца рэдка, нягледзячы на працу з ім псіхолагаў і іншых спецыялістаў. Часцей у такіх выпадках ён працягвае ісці па шляху правапарушэнняў.

Таму вельмі важна не даць падлетку патрапіць на гэты шлях. І тут высілкі педагогаў і работнікаў праваахоўчых органаў павінны ў першую чаргу падтрымлівацца намаганнямі бацькоў, найперш абавязак якіх сур'ёзна ставіцца да выхавання сваіх сталеючых дзяцей, знаходзіць час пацікавіцца іх справамі, не выпіхнуць сваёй абыякавасцю, ці, наадварот, залішняй строгасцю падлетка ў асяродак, дзе яго чакае бяда."

***Запісала Е.Гракові***







*Выступае фальклорны гурт Лаўнічанка (зверху)*

*Адкрыццё Дома фальклору ў Новым Янчыне (злева)*

*На сцэне старэйшая з удзельніц аўтэнтычнага фальклорнага гурта вёскі Мётча (знізу)*

# З глыбінь жыватворных народнага духу

*Мы, беларусы, цікавыя ва ўсім свеце самабытнасцю сваёй культуры. "Традыцыйная культура ў многім садзейнічае задавальненню грамадска-значных запатрабаванняў сучаснай моладзі і ў гэтай сваёй якасці павінна разглядацца як адзін з магутных сродкаў выхавання маральна і фізічна здаровай, гарманічна развітай асобы", - піша ў сваім артыкуле "Праблема "Традыцыйная культура і дзеці" і спецыфіка фальклорных фестываляў у Беларусі на сучасным этапе" вядомы фальклярыст і даследчык культуры Мікола Аляксеевіч Козенка. Гэты артыкул, як , урэшце, і цэлая кніга матэрыялаў фальклорных чытанняў пад назвай "Народная спадчына Бацькаўшчыны" цалкам прымеркаваны да выязнога рэспубліканскага семінара спецыялістаў па фальклору абласных і раённых метадычных цэнтраў, кіраўнікоў фальклорных калектываў па тэме: "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы аднаўлення і выхавання", які адбыўся 21-24 сакавіка на Барысаўшчыне.*

Арганізатарамі семінара выступілі Міністэрства культуры РБ, Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры, дзяржаўная ўстанова "Менскі абласны цэнтр народнай творчасці", аддзелы культуры і адукацыі Барысаўскага райвыканкама.

Барысаўскі раён у рэгіёне Цэнтральнай Беларусі сёння з'яўляецца своеасаблівым цэнтрам вывучэння, аднаўлення і пераемнасці традыцыйнай культуры. Вывучаецца вопыт як аўтэнтычных гуртоў, якія маюць працяглую творчую дзейнасць, так і пераемнікаў мастацкіх традыцый – дзіцячых калектываў. І таму зразумела, чаму сярод іншых раёнаў прэтэндэнтаў на правядзенне рэспубліканскага семінара менавіта Барысаўскі раён выйграў спаборніцтва. Семінар праводзіўся на спецыяльна распрацаванай праграме ў рамках рэспубліканскага праекта з аднайменнай назвай.

У чацвер, 21 сакавіка, 60 удзельнікаў семінара апоўдні прыбылі ў Стара-Барысаўскі СДК для ўдзелу ў цырымоніі адкрыцця. Аб задачах, мэтах гэтага семінара, аб праблемах адраджэння традыцыйнай беларускай культуры гаварылі Т.І.Стружэцкі, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Мін.культуры РБ; М.А.Храпко, загадчык аддзела культуры Барысаўскага райвыканкама; І.Ф.Каратыш, загадчык аддзела адукацыі Барысаўскага райвыканкама; В.А.Каспяровіч, намеснік дырэктара Менскага абласнога цэнтра народнай творчасці. З лекцыямі па тэматыцы семінара выступілі яго кіраўнік, старшы навуковы супрацоўнік лабараторыі традыцыйнага мастацтва Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры М.А.Козенка і загадчык аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны У.М.Конан. З канцэртнай праграмай выступіў ансамбль народнай музыкі і песні "Траецкія музыкі" Старабарысаўскага СДК.

А тым часам удзельнікаў семінара ўжо чакалі гаспадары Нова-Янчынскага Дома фальклору, урачыстае адкрыццё якога павінна было адбыцца ў гэты дзень. Асабліва хвалявалася Раіса Паўлаўна Анікеева, кіраўнік фальклорнага калектыву "Суседкі", загадчыца Дома фальклору. З "Суседак" – аўтэнтычнага фальклорнага гуртка, які ўтварылі жанчыны суседскіх вёсак – Зачысце, Нова-Янчына і Кастрыца – узнікла ідэя стварэння Дома фальклору. Стары закінуты клуб у Нова-Янчыне Р.Анікеева аднаўляла сама з дапамогай свайго мужа на вельмі сціплыя сродкі. Экспанаты для Дома фальклору – прадметы сялянскага побыту – сабралі ўсім наваколлем. У выніку атрымалася натуральнага выгляду хата-гасцёўня для ўсіх суседак і суседзяў, а таксама "Суседачак" – дзіцячага фальклорнага калектыву Зачысенскага СДК, якім кіруе Галіна Міхайлаўна Клімковіч.

Як і належыць, дарагіх гасцей "Суседкі" сустрэлі на ганку з хлебам-соллю і гучнай песняй-запрашэннем, якую спявалі ў падобных выпадках тутэйшыя жыхары адвеку. З прывітальнай прамовай на адкрыцці Нова-Янчынскага Дома фальклору выступіў старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў Васіль Дзмітравіч Ліцвінка. Перш за ўсё, ён заклікаў усіх работнікаў культуры падтрымаць і развіць зароджаную на Барысаўшчыне ідэю стварэння Дамоў фальклору. Бо на сённяшні дзень найлепшага спосабу захавання традыцыйнай культуры, чым гэты, няма. Няма таксама і найвысакароднейшага абавязку для кожнага культурнага работніка, чым захаванне аўтэнтычнай мелодыі і танца, якія фарміруюць душу народа.

Да прысутных звярнулася таксама намесніца старшыні Барысаўскага райвыканкама С.М.Герасімовіч, якая адзначыла, што гэта ўжо другі на Барысаўшчыне Дом фальклору (першы адкрыты нядаўна ў Лаўніцы) і гэтая добрая традыцыя будзе, па магчымасці, працягвацца.

Пасля на невялічкай сцэне адкрытага толькі што Дома фальклору разгарнулася сапраўднае прадстаўленне народных талентаў. "Суседкі" праспявалі абрадавыя радзінныя, хрэсьбінныя, вясельныя песні. Старэйшых суседак на сцэне змянілі іх пераемніцы – дзіцячы калектыў "Суседачкі", якія таксама паказалі гасцям песні і танцы, перанятыя ад вясковых бабуль. Ансамбль народнай песні "Асалода" Касцюкоўскага СДК,



**Выступае "Асалода" (Касцюкі)**

як і заўсёды, пацвердзіў у сваім выступленні ганаровае званне народнага калектыву. Сапраўдным адкрыццём для прадстаўнікоў прафесійнай публікі стаў дзіцячы фальклорны калектыў Карсакавіцкага СДК, якім кіруе вялікая энтузіястка, настаўніца геаграфіі Ларыса Аляксееўна Піліпёнак.

У пятніцу, 22 сакавіка, удзельнікі семінара зранку накіраваліся ў Вяляціцкую сярэднюю школу, дзе іх гасцінна сустрэў дырэктар Дз.А.Касценіч.

Напачатку спецыялісты прачыталі лекцыі па тэме "Танцавальны фальклор і дзеці", а пасля адбыліся практычныя заняткі, на якіх засвойваліся асаблівасці аўтэнтычнага народнага танца.

Вельмі цікавым для ўдзельнікаў семінара было наведванне школьнага этнаграфічнага музея "Беларуская хатка" (кіраўніца В.М.Касабуцкая), а таксама музея прыкладной творчасці (кіраўніца Л.Р.Альшэўская).

Праграма, якую прапанаваў гасцям Вяляціцкі СДК, была вельмі разнастайнай. Народная ўмеліца Таццяна Ігнатаўна Мажэйка паказала прысутным, як трэба прасці на самапрадцы. Аляксандра Аляксееўна Гермаліт і Вольга Якаўлеўна Галуза валялі валенкі і расказвалі пра іх выраб. Вольга Герасімаўна Безручонак, ад якой запісана шмат абрадавых песень (адных толькі вясельных больш за 60), праспявала абрадавую поставую песню. Тут жа дэманстраваліся посцілкі, ручнікі, вышыванкі, карункі народных майстроў, у тым ліку вырабы Любові Сяргееўны Шчэрбы, якая носіць ганаровае званне "народны ўмелец".

У канцэртнай праграме выступілі народны фальклорны калектыў "Спадчына" Вяляціцкага СДК (кіраўнік В.Ф.Шутко), дзіцячы фальклорны гурт "Вытокі" (кіраўніца Н.Ц.Цішкавец), народны фальклорны калектыў "Лаўнічанка" Лаўніцкага Дома фальклору (кіраўнік Г.М.Казлова). Кампазіцыю "Куфар жыцця" з выкананнем радзінных, хрэсьбінных, жніўных песень паказалі ўдзельнікі фальклорнага калектыву "Прыданкі" з Глівінскіх Навасёлак (кіраўніца В.Буланда).

У суботу, 23 сакавіка, рэспубліканскі семінар прадоўжыў сваю работу ў Мётчанскай установе "Школа-садок", якую ўзначальвае Уладзімір Піліпавіч Лайкоў. Для многіх работнікаў устаноў культуры рэспублікі, навукоўцаў паездка ў Мётчу была не першай. З дакладамі і паведамленнямі на мётчанскіх чытаннях выступілі намеснік загадчыка аддзела адукацыі Барысаўскага райвыканкама Р.Р.Рамановіч, настаўнікі А.А.Абрамовіч, Дз.А.Абрамовіч, А.В.Крачкоўская, удзельнікі фальклорнага гурта "Берагіня" вучні Г.Паўлавец, І.Чаравічнік, С.Сцепановіч і іншыя, спецыялісты Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры, раённых метадычных цэнтраў. Былі праведзены заняткі па тэме: "Методыка падрыхтоўкі і правядзення конкурсу танцавальных пар – выканаўцаў народных побытавых танцаў". У конкурсе ўдзельнічалі танцавальныя пары Мётчанскай школы-садка, Вялікаўхалодскай, Аздзяціцкай, Вяляціцкай, Лошніцкай агульнаадукацыйных школ. У Доме культуры для ўдзельнікаў была падрыхтавана мастацкая імпрэза пераемнікаў і носьбітаў традыцый Мядоцкага краю пад назвай "Мы-Берагіня", у якой удзельнічалі калектывы этнафальклорнага аб'яднання "Берагіня": фальклорная група "Зярняткі" (кіраўніца А.Крачкоўская), інструментальная група "Васількі" (А.Абрамовіч), спеўная група "Выспа" (А.Абрамовіч), фальклорны гурт "Берагіня" (М.Козенка, А.Абрамовіч), а таксама аўтэнтычны гурт пры Мётчанскім СДК (арганізатар Л.Кажэўка).

У нядзелю, 24 сакавіка, адбыўся выніковы "Круглы стол" па тэме: "Традыцыйная культура і дзеці: пытанні даследавання, аднаўлення, пераемнасці, выхавання". На тым рэспубліканскі семінар спецыялістаў па фальклору завяршыў сваю работу.

***А.Турко***





*Фрагмент з канцэрта ў Мётчы (злева)*

*У Доме фальклору ў Новым Янчыне (справа)*

*Фальклорны ансамбль Спадчына з Вяляцічаў (знізу)*

*У адным з музеяў Вяляціцкай сярэдняй школы "Беларуская хатка" (знізу)*










*Як часта нашы лозунгі супярэчаць рэчаіснасці. Дзіўна, але даводзіцца бачыць такія прыродаахоўныя заклікі (справа і зверху) непасрэдна каля валкі лесу (знізу), прычым досыць неахайнай*

# Малюем добра, захоўваем дрэнна

*З даўніх часоў у нашым краі ля дарог клалі камені. Асобныя з іх у старажытныя часы мелі культавае прызначэнне. Большасць – абмяжоўвалі яе. Яшчэ і зараз на Барысаўшчыне дзе-ндзе ўздоўж старых шляхоў захаваліся тыя камяні.*

Апошнім часам вялікія камені ля дарог часта выкарыстоўваюцца для нанясення розных прыродаахоўчых заклікаў. Пры гэтым на іх нярэдка наносяца досыць цікавыя адмысловыя малюнкі. Такія камяні, акрамя ўсяго іншага, вельмі добра ўпрыгожваюць самі шляхі, уздоўж якіх знаходзяцца.

Камяні з цікавымі малюнкамі ля дарог ёсць і ў наваколлях Вялікай Ухалоды. Аднак іх заклікі нярэдка рэзка разыходзяцца з рэчаіснасцю іх наваколля. Так, у двухстах метрах ад каменя, які заклікае захоўваць лес, нядаўна зроблена яго высечка. Па яе краях нявысечаны лес неахайна павалены. Узнікае пытанне, ад кага трэба берагчы лес, каб захаваць яго?

Наша газета ўжо не раз пісала пра празмерную, нічым не апраўданую высечку лесу ў нашым краі. Сёлета яна як ніколі мае адну асаблівасць. Вялікая частка лесу нарыхтоўваецца не праз суцэльную высечку лесу, а праз высяканне асобных дрэў уздоўж лясных дарог і просек. Пры гэтым нярэдка забіраецца толькі найбольш каштоўная для "лясных піратаў" частка дрэва, а астатняе, як і знішчаныя маладыя навакольныя дрэвы, застаецца парахнець.



Ці будзе ў нас калі пакладзены канец таму шалёнаму, нічым не апраўданаму знішчэнню лесу, што існуе зараз?

*А.Гурскі*



# Месяц птушак

Месяц птушак – красавік напоўнены няспынным гоманам. Амаль усе пярнатыя вяртаюцца з выраю, большасць з іх робяць гнёзды і кладуць яйкі. Гнёзды ўсюды: на галінах дрэў і ў дуплах, у хмызняку і на травяністых купінах, на зямлі. На ўзлесках і лясных палянах збіраюцца на такавішчы цецерукі. У барах токуюць глушцы. Пачынаецца ацёл у ласіх і казуль, размнажаюцца мышы.

Ажываюць мурашнікі. Матылі крапіўнік і лімоннік першымі вылятаюць у цёплыя красавіцкія дні. Пакінулі зімовыя "кватэры" гадзюкі, вужы, яшчаркі. Яны часта грэюцца на ўзгорках. Берагі сажалак, азёр і балот запоўнены жабамі.

На заліўныя лугі выходзяць касякі рыб. Нерастуюць шчупак, плотка, язь, акунь, адкладваючы ікру на цёплым мелкаводдзі.

Цячэ сок у клёна і бярозы. Тэрмін пачатку яго руху ў паўднёвых і паўночных раёнах Беларусі можа адрозніваца прыкладна на 20 дзён. У сярэдзіне месяца зацвітаюць вярба, воўчая ягада, некаторыя іншыя дрэвы і травяністыя расліны. "Запыльвае" арэшнік: вакол яго завушніц рассейваюцца воблачкі жоўтага пылку. На пясчаных адхонах, берагах яроў і рэк паяўляюцца кветкі падбелу, на праталінах – блакітныя пераляскі. Цвітуць кураслеп і медуніца. На ўзлесках і сярод кустоў паяўляюцца чубаткі, гусіная цыбуля, часнок. Набракаюць пупышкі на пладовых дрэвах: яблыні, грушы, вішні. Узнаўляецца вегетацыя азімых, канюшыны. У другой палове красавіка на поўдні пачынаецца выпас жывёлы.

У садах уносяць угнаенні, садзяць новыя дрэвы і кусты, вядуць барацьбу са шкоднікамі.

*М.Пучыла*

# "Чарнобыльскі набат – 2002"

На пачатку сакавіка ў памяшканні 8 СШ адбылася гарадская экалагічная алімпіяда школьнікаў "Чарнобыльскі набат – 2002". Удзел у ёй бралі вучні сярэдніх школ, гімназій і ліцэя і навучэнцы Барысаўскага экалагічна-натуралістычнага цэнтра дзяцей і моладзі.

Спаборніцтва праводзілася па дзвюх групах: вучні 7-9 класаў і вучні 10-11 класаў. Удзельнікам былі прапанаваны заданні, якія складаліся з пісьмовых пытанняў і тэстаў. Старшыня камісіі дырэктар экалагічна-натуралістычнага цэнтра Вольга Іванаўна Аляксеева адзначае, што заданні былі даволі складаныя і ахоплівалі шырокі дыяпазон ведаў у галіне біялогіі, экалогіі і памежных навук

Выдучэнне пераможцаў рабілася па колькасці набраных балаў.

Вынікі праведзенай алімпіяды парадавалі камісію, якая падводзіла вынікі. У параўнанні з папярэднімі алімпіядамі ў вучняў адчуваецца істотнае павышэнне ўзроўню ведаў і экалагічнай дасведчанасці.

У групе старэйшых навучэнцаў проста выдатныя веды паказала выхаванка экалагічна-натуралістычнага цэнтра, вучаніца п/ліцэя Ірына Кудзіна, якая набрала 37 балаў з 40 магчымых і стала пераможцай алімпіяды сярод вучняў 10-11 класаў.

На другім месцы з добрымі вынікамі – Юлія Гусакова з 12 СШ, на трэцім – Юлія Мельнік (11СШ). Амаль не адсталі ад іх па колькасці набраных балаў Аляксандр Гайдук (18 СШ), Ганна Шамхова (п/ліцэй) і Таццяна Масюкевіч (16 СШ), якія занялі адпаведна 4,5 і 6 месцы і атрымалі заахвочвальныя граматы.

У групе 7-9 класаў лепшым быў таксама выхаванец экалагічна-натуралістычнага цэнтра, вучань 2 гімназіі Матвееў Андрэй (кіраўніца Данец В.К.), на другім месцы - Ірына Хацкевіч з 12 СШ, на трэцім – Ігнатюк Аляксандр (2 СШ).

Заахвочвальныя граматы атрымалі Галіна Кішык (18 СШ), Максім Авачоў (9 СШ) і Аляксандр Гушча (экацэнтр, 11 СШ).

У групе вучняў 7-9 класаў старшыня камісіі адзначае добрыя веды Аляксея Грыня з 22 СШ і Уладзіслава Жыгала з 8 СШ, якія набралі даволі значную колькасць балаў.

У дзень гадавіны Чарнобыльскай трагедыі ў Салігорску пройдзе абласная алімпіяда "Чарнобыльскі набат- 2002". Адстойваць гонар барысаўскіх маладых эколагаў будуць пераможцы гарадской алімпіяды, выхаванцы экалагічна-натуралістычнага цэнтра Ірына Кудзіна і Андрэй Матвееў. І Андрэй і Ірына займаюцца ў экацэнтры пад кіраўніцтвам Данец Вольгі Канстанцінаўны.

Павіншуем жа ўсіх пераможцаў алімпіяды, іх настаўнікаў і пажадаем Андрэю і Ірыне поспеху на абласных спаборніцтвах!

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Чорны бусел

Чорны бусел, у адрозненне ад белага свайго сабрата, вядзе скрытны лад жыцця і не любіць блізкага суседства з чалавекам. Ён пазбягае адкрытых месцаў і селіцца ў глухамані, сярод лясных балот, па берагах лясных азёр, па бязлюдных далінах рэк. Яго нават цяжка і ўгледзець: прамільгне чорным ценем і знікне ў глушы.

Па памерах чорны бусел трошкі меншы за белага. Даўжыня цела да 1м, вага – да 3 кг. Пер'е ў бусла амаль чорнае, з металічным, фіялетавым, зялёным, рудым, медным адценнямі. Белыя толькі грудзі і жывот. Дзюба, ногі, кольцы каля вачэй – чырвоныя. Вельмі асцярожная і маўклівая птушка. Жыве ў адзіноцтве, пару стварае толькі ў перыяд гнездавання.

Корміцца чорны бусел, як і белы, жабамі, мышамі, чарвякамі, уліткамі, жукамі, дробнай рыбай, балотнымі і рачнымі раслінамі. Для гнёздаў ён выбірае маладаступныя лясныя масівы, гняздо будуе высока на дрэве, але не на самай вяршыні, а трошкі ніжэй, звычайна на бакавых галінах дуба ці чорнай альхі, радзей на галінах елкі ці хвоі. Для будаўніцтва выкарыстоўвае сухія галінкі дрэў, зямлю і дзёрн. Унутры сваё жытло высцілае травой, імхом, зялёнымі галінкамі. Гняздо атрымліваецца масіўнае - у дыяметры да 1,5 м і можа служыць на працягу многіх гадоў (да 15 год).

Адкладае птушка 4-6 яек. Наседжваюць яйкі бацькі па чарзе. Бусляняты з'яўляюцца на свет у канцы траўня – пачатку чэрвеня. Яны пакрыты светлым пухам, які знікае толькі пасля месяца жыцця, дзюбка ў птушанят не чырвоная, як у дарослых птушак, а жаўтаватааранжавая. Бацькі прыносяць корм малым не часта: тры-шэсць разоў за суткі. Ежу яны не нясуць у дзюбе, а збіраюць у гарлавы мяшок, куды змяшчаецца адразу шмат рознай здабычы. Корм чорны бусел збірае з тэрыторыі да шасці квадратных кіламетраў. Таму пары селяцца далёка адна ад адной.

Чорны бусел прылятае да нас у першай палове красавіка, а адлятае ў верасні. Зіму ён праводзіць у Афрыцы або на поўдні Азіі. Арэал распаўсюджвання чорнага бусла даволі шырокі: лясная зона Еўразіі, горныя лясы Каўказа, Сярэдняй Азіі, Казахстана, іншых азіяцкіх краін. У нашых краях ён жыве на тэрыторыі Бярэзінскага запаведніка.



Нягледзячы на вялікую тэрыторыю распаўсюджвання, колькасць асоб птушкі невялікая і ўвесь час памяншаецца. Тлумачыцца гэта пастаянным скарачэннем плошчы цяжкадаступных лясоў, інтэнсіўнай меліярацыяй, хімізацыяй, браканьерствам. Прычым паляванне на бусла з'яўляецца практычна бессэнсоўным заняткам, бо ні добрага мяса, ні карысная пер'я з птушкі не атрымаеш. Але, на жаль, здараюцца выпадкі яго адстрэлу, дзе ён проста служыць мішэнню для паляўнічага. Потым забітая птушка выкідаецца.

Як і іншыя буйныя лясныя птушкі, чорны бусел церпіць ад высечкі лясоў, ад бесцырымоннага прасоўвання чалавека ў глыбіні адвечных лясоў і балот.

*Е.Граковіч*

# "У снах мы бачым мілыя сэрцу мясціны..."

*Шаснаццаць гадоў прайшло з таго квітнеючага дня вясны, калі над улашчаным красавіцкім сонцам Чарнобылем ўзняўся слуп радыяцыйнага попелу, дыму і пылу. І зніклі вясна, сонца, радасць. І нарадзіўся страшны дзень – дзень, які ў адно імгненне патушыў святло жыцця, прымусіў жахнуцца: ці ёсць у народа Беларусі будучыня? У краіне пачаўся адлік новага часу – паслячарнобыльскага. Пачаўся адлік пакут, хвароб, смерцяў.*

Да той страшнай трагедыі мая сям'я жыла ў Гомельскай вобласці, Веткаўскім раёне, вёсцы Акшынцы. Жыла я разам з мамай, татай, братам.

Прырода тых мясцін, дзе я правяла першыя гады майго дзяцінства, не была яркай. Гэта была звычайная для Беларусі карціна: палі, лугі, лясы, вёскі з саламянымі і драўлянымі стрэхамі. Я помню ціхую, пакручастую рэчку, што цякла паміж берагоў, зарослых вербамі і альхой. Помню наш вялікі, акружаны садам, дом. Цудоўнымі і поўнымі казачнымі таямніцамі здаваліся мне ў дзяцінстве куточкі роднай прыроды. Я вучылася адчуваць і разумець родную зямлю, бачыла, як распускаюцца кветкі і растуць травы, любіла збіраць духмяныя ягады на сунічных палянах. Тут, у лясным краі, зарадзілася мая пяшчота да прыроды, да роднай зямлі.

І раптам гэты страшны выбух. А неўзабаве пачалося адсяленне. Трэба было ехаць у невядомасць, пакідаць ціхую радзіму.

Трэба было пакідаць тое, з чым ты звыкся, да чаго з маленства прыкіпеў душою. Птушкі кожную вясну спяшаюцца да сваіх гнёздаў, а маім аднавяскоўцам няма куды вярнуцца: няма болей на карце такой вёскі – Акшынка. Глынуў яе атамны смерч, як і сотні другіх беларускіх вёсак. І толькі другі раз у нашых снах мы бачым мілыя сэрцу мясціны, родныя аблічы землякоў.

Пасля доўгіх блуканняў наша сям'я прыехала ў Барысаў. Цяжка было прывыкаць да незнаёмага горада: ды нічога не зробіш – жыць трэба.

Я жадаю шчасця сваім землякам. І тым, хто ратуючыся ад пагібелі, пакінулі сваю радзіму, сталі бежанцамі. І тым, хто вымушаны жыць на забруджанай зямлі, хто кожны дзень рызыкуе здароўем сваім і сваіх дзяцей.

У забруджанай вёсцы Няглюбка жывуць мае бабуля і дзед. Як і другія старыя, яны не захацелі пакідаць сваю радзіму, дзе прайшла маладосць, дзе ў пасляваенныя ліхія гады дзяцей на ногі падымалі, да ўнукаў дажылі. Ды і куды ісці ад роднага парога? Перасаджанае дрэва і тое хварэе, а чалавечая душа баліць на чужыне, дадому рвецца.

Стаіць сярод лясоў вёска Няглюбка. І не чутно ў ёй ні песняў, ні дзіцячага смеху, ні вясёлых святочных гулянняў: жыццё замерла, спынілася.

Вось ужо 16 год звоніць над шматпакутнай беларускай зямлёй чарнобыльскі набат як памяць пра мёртвых, як папярэджанне жывым, як напамін усяму свету пра тое, што трэба любіць і берагчы зямлю, цаніць і паважаць свой народ.

*В.Казлова, 10 СШ*

# Небяспечны не толькі мухаморы і паганкі

Надыходзіць вясенне-летні сезон – сезон збірання ягад, грыбоў, лекавых раслін. Гэта цікавы захапляючы занятак, які прыносіць і маральнае задавальненне, і матэрыяльную карысць. Ужо ў красавіку на ўскрайку лесу, у сасонніках, дзе праходзяць мінералізаваныя палосы, на лясных палянах, добра праграваемых сонцам, паяўляюцца смаркі і страчкі – грыбы, якія пры адпаведнай апрацоўцы маюць добрыя смакавыя і пажыўныя якасці.

Пры збіранні дароў лесу трэба памятаць, што лясныя масівы нашага раёна (у Вяляціцкім лясніцтве ля вёсак Леванова, Восава, Боркі, Унтальянка, Ч.Восаў, Карма; у Чэрнеўскім лясніцтве – ля Чэрнеўкі, Лаўніцы, Маталыгі) падвергліся радыяцыйнаму забруджванню са шчыльнасцю забруджвання глебы да 5 кюры на квадратны кіламетр.

Згодна Правілаў вядзення лясной гаспадаркі ў зонах радыяцыйнага забруджвання, зацверджаных Міністэрствам лясной гаспадаркі РБ ад 15.01.2001 г., сабраныя ў гэтых зонах лясная прадукцыя абавязкова павінна праходзіць радыёметрычны кантроль.

Найбольш актыўна накапліваюць радыёнукліды грыбы. Нават на адносна чыстай тэрыторыі (да 1 Кu/кв.км) у некаторых відах грыбоў утрыманне цэзію-137 перавышае дапушчальныя ўзроўні.

Па здольнасці накапліваць радыёактыўныя рэчывы грыбы адрозніваюцца адзін ад аднаго. Іх можна падзяліць на наступныя ўмоўныя групы:

***1. Акумулятары: польскі грыб, свінушка, маслёнак, махавік жоўта-буры, гаркушка.***

У пладовых целах гэтых грыбоў нават пры нязначным забруджванні глебы (меней 1 Кu/кв.км), гэта значыць на тэрыторыях, якімі лічацца чыстымі, утрыманне цэзію-137 можа перавышаць дапушчальны ўзровень. Таму гэтыя грыбы лепш зусім не збіраць.

***2. Моцнанакапліваючыя: грузды, ваўнянка ружовая, зялёнка, сыраежкі.***

Збіраць гэтыя грыбы можна толькі пры шчыльнасці забруджвання глебы да 1 Кu/кв.км з абавязковым радыёметрычным кантролем.

***3. Сярэдненакапліваючыя: лісічка сапраўдная, радоўка, баравік, падбярозавік, падасінавік.***

***4. Слабанакапліваючыя: апёнак асенні, грыб-парасон стракаты, дажджавік жамчужны.***

Нарыхтоўку грыбоў, якія адносяцца да трэцяй і чацвёртай групы, рэкамендуецца праводзіць у лясах са шчыльнасцю забруджвання глебы да 2 Кu/кв.км з абавязковым радыёметрычным кантролем.

На дарогах, якія вядуць у забруджаныя ўчасткі лесу, устаноўлены аншлагі, інфармацыйныя стэнды, якія ўказваюць на павышаны ўзровень радыяцыі.

Праверыць лясную прадукцыю і любую іншую прадукцыю, якая выкарыстоўваецца для харчавання (мяса, малако, бульбу, зерне і г.д.), можна на Пасту радыяцыйнага кантроля Барысаўскага лясгаса па адрасу: **г. Барысаў, вул. Лапаціна 205а, т. 4-77-99**. Пост працуе з 8 да 17 гадз. (выхадныя: субота, нядзеля). Аналіз робіцца бясплатна. Для пробы неабходна прадаставіць адзін літар прадукта. Проба вяртаецца наведвальніку.

Не лянуйцеся, рабіце гэта, не рызыкуйце сваім здароўем!

***Э.Луцкевіч,***
***Інжынер-радыёлаг***




# Карта радыяацыйнага забруджвання лясоў Барысаўшчыны

Апошняе грунтоўнае даследаванне ўзроўню забруджвання глебы ў Барысаўскім раёне праводзілася ў 1997 годзе. Па выніках даследавання была складзена карта ўзроўню радыяцыйнага забруджвання.

Паўночная частка Барысаўшчыны не мае участкаў з павышаным узроўнем радыяцыі і можа лічыцца чыстай тэрыторыяй.

На поўдзень ад Барысава пляма радыяцыйнага забруджвання шчыльнасцю 1-2 Кu/кв.км маецца ў раёне в. Глівіна. Яе плошча складае 70 га. Па выніках папярэдняга даследавання, зробленага неўзабаве пасля аварыі, плошча забруджвання тут складала 284 Кu/кв.км.

У Неманіцкім лясніцтве ля вёскі Вялікая Ухалода маецца забруджаны ўчастак са шчыльнасцю забруджвання 1-2 Кu/кв.км, плошча якога складае 25 га. Раней тут была пляма плошчай 70 га.

У Чэрнеўскам лясніцтве ля вёсак Аздзяцічы, Лаўніца забруджныя ўчасткі са шчыльнсцю 1-2 Кu/кв.км маюць плошчу 1582 га (было 1504 га), а са шчыльнасцю 2-5 Кu/кв.км – 264 га (было 866 га). У Вяляціцкім лясніцтве пляма са шчыльнасцю 1-2 Кu/кв.км мае плошчу 1414 га (было 2209 га), а са шчыльнасцю 2-5 Кu/кв.км – 800 га (было – 386 га).

Павелічэнне плошчы забруджвання са шчыльнасцю 2-5 Кu/кв.км у Вяляціцкім лясніцтве адбылося, хутчэй за ўсё, за кошт больш дакладных замераў пры апошнім даследаванні.

Цалкам па гэтых лясніцтвах назіраецца таксама некаторае скарачэнне забруджанай тэрыторыі, але не такое істотнае, як каля Глівіна і Вялікай Ухалоды.

На жаль, гэтыя раёны атрымалі даволі істотную дозу радыяцыйнага бруду, наступствы якога будуць адчувацца яшчэ доўгія гады. Узровень радыяцыйнага забруджвання грыбоў, сабраных ля вёскі Чэрнеўка, часта перавышае дапушчальны ўзровень у 5-10 разоў.

Цалкам жа па раёну узровень радыяцыйнай забруджанасці глебы, згодна вынікаў апошняга даследавання, паменшыўся на 17%.

# Красавік

Красавік – сярэдзіна каляндарнай вясны. Назва месяца паходзіць ад слова "краскі", кветкі". Апрель у рускай мове ўтвораны ад лацінскага "адмыкаць" (пачынаць вясну). На сярэдзіне месяца вышыня Сонца над гарызонтам у поўдзень 45,8°С. Абсалютны максімум тэмпературы назіраўся ў Берасці - +31°С (1950 год), мінімум – у Менску -23°С (1923 год). Канчаткова сыходзіць снегавое покрыва, пачынаецца крыгаход на паўночных рэках Беларусі, разліваюцца расталыя воды. Красавіцкія рэчкі пераўтвараюцца ў мнагаводныя шумлівыя патокі, якія выходзяць з берагоў, затапляюць нізіны. На Палессі ў асобныя гады разводдзі рэк часам набываюць катастрафічны характар. Магчымы снегапады нават і ў канцы красавіка, што адзначалася ў 1959 і 1969 гадах. Поўнасцю адтайваюць глебы. У другой і трэцяй дэкадах сеюць раннія яравыя (авёс, ячмень, пшаніцу), на поўдні садзяць бульбу, лён – даўгунец. Вільготных дзён у красавіку 4-7, сухіх 1-4, ясных 3-5, пахмурных 10-12; адносная вільготнасць паветра ўдзень 59-63%. Дзён з ападкамі звычайна 12-14, норма ападкаў 35-40 міліметраў, але бывае да 120 міліметраў і болей (149 міліметраў у Васілевічах, 1950 год).

***М.Пучыла***

# Барысаўскія маладыя эколагі – адны з лепшых у краіне

Да таго факту, што маладыя эколагі горада паспяхова выступаюць на абласных і рэспубліканскіх конкурсах, мы ўжо нават і прызвычаіліся. Але варта адзначыць, што поспехі гэтыя не прыходзяць самі сабою, а з'яўляюцца вынікам напружанай і апантанай працы выхаванцаў Барысаўскага экалагічна-натуралістычнага цэнтра, іх выкладчыкаў і навуковых кіраўнікоў, усяго педкалектыву цэнтра. І яшчэ вынікам гарачай прыхільнасці маладых людзей да роднай старонкі, да яе прыроды. Працы выхаванцаў Барысаўскага экалагічна-натуралістычнага цэнтра заўжды маюць практычную скіраванасць і навуковую каштоўнасць, што прызнана вядучымі эколагамі Беларусі.

У лютым 2002 года выхаванцамі цэнтра на абласны конкурс біёлага-экалагічных работ, які адбыўся ў Менску, было прадстаўлена чатыры работы.

Вынікі конкурсу аказаліся проста выдатнымі. Праца Пятра Дубнавіцкага "Уплыў прамысловых забруджванняў на змяненне відавога складу наглебавага покрыву ў сасняках верасковых" прызнана лепшай з 27 прадстаўленых на конкурс работ. Пётр атрымаў дыплом за першае месца. Работа была выканана ім пад кіраўніцтвам Царовай Алены Георгіеўны, кіраўніцы секцыі экперыментальнай батанікі.


*Пераможцы рэспубліканскага конкурсу навукова-біялагічных работ В. Забалуева, Н. Таргонская, М.Ціхамірава, М.Шалкоўская і П.Дубнавіцкі*

Маргарыта Шалкоўская, якая выступіла на конкурсе з работай "Маніторынг паветранага асяродку г.Барысава", заняла другое месца і атрымала дыплом ІІ ступені (навуковы кіраўнік Журавель Анжэла Валер'еўна, секцыя экалогіі).

Сумесная праца Надзеі Таргонскай, Марыны Ціхаміравай і Вольгі Забалуевай "Комплексны аналіз арганалептычных, санітарных, таксікалагічных, бактэрыялагічных паказчыкаў забруджвання ракі Схі", якую яны выканалі пад кіраўніцтвам Журавель А.В., прынесла дзяўчынкам дыпломы за трэцяе месца

Ірына Кудзіна, якая прадставіла работу "Вывучэнне развіцця растаропшы плямістай", атрымала таксама дыплом трэцяй ступені (навуковы кіраўнік Данец В.К., секцыя "Даследчык").

Такім чынам, усе працы барысаўскіх навучэнцаў заваявалі прызавыя месцы і былі прызнаны дастойнымі для прадстаўлення на рэспубліканскі конкурс, які прайшоў у Менску 13-15 сакавіка. На конкурсе, дзе разглядалася каля 140 работ, працы нашых маладых эколагаў таксама былі аднымі з лепшых.

Праца Пятра Дубнавіцкага прызнана другой, праца Надзеі Таргонскай, Марыны Ціхаміравай і Вольгі Забалуевай заняла 3 месца, а праца Маргарыты Шалкоўскай была чацвёртай. Маргарыта ўзнагароджана заахвочвальнай граматай.

Такія выдатныя вынікі дазваляюць сказаць, што мала хто ў рэспубліцы можа параўнацца з нашымі дзяўчатамі і хлопцамі ў справе вывучэння і аховы роднай прыроды. Ёсць усе падставы спадзявацца, што навучэнцы цэнтра, атрымаўшы далейшую адукацыю, выраступь у сур'ёзных вучоных, якія складуць гонар беларускай навукі і праславяць горад, дзе яны ўзгадаваліся.

***Служба інфармацыі "ГБ"***



Від на гістарычны цэнтр Барысава з правага берага Бярэзіны

# Гісторыя Барысава ў датах

**1102 год** – заснаванне Барысава.

**1127 год, 4 жніўня** – штурм і ўзяцце Барысава чарнігаўскімі і торскімі войскамі.

**1199 год** – адбудова і ўмацаванне барысаўскага замка.

**XII –XIII ст.** – Барысаў – цэнтр аднаго з пятнаццаці княстваў на тэрыторыі Полацкай дзяржавы; час існавання першага барысаўскага замка.

**Канец XIII ст.** – Барысаў уваходзіць у склад Вялікага Княства Літоўскага.

**Не пазней другой паловы XIV – пачатку XV ст.** – Барысаў пераносіцца на новае месца недалёка ад ўпадзення Схі ў Бярэзіну; узвядзенне на новым месцы другога замка.

**Не раней 1387 года, не пазней 1406 года** – Барысаў узгадваецца сярод літоўскіх гарадоў.

**1415-1420-я гады** – найбольш старое пісьмовае ўзгадванне цэркваў у Барысаве. На той час іх было тры.

**1420 год** – наведванне Барысава праваслаўным мітрапалітам Фатэем.

**1432 год** – падчас грамадзянскай вайны ў Барысаве на пэўны час спыняецца Свідрыгайла са сваім войскам.

**1433 год** – найбольш старое пісьмовае ўзгадванне пра прамы шлях з Барысава на Менск.

**1433 год, жнівень** – Свідрыгайла зноў на некалькі дзён спыняецца са сваім войскам у Барысаве.

**1494 год, 22 сакавіка** – у лісце вялікага князя Аляксандра ўзгадваецца Барысаў і яго воласць; жыхары Барысава называюцца барысаўцамі.

**1494 год, 23 сакавіка** – у адным з тагачасных дакументаў узгадваюцца барысаўцы – жыхары Барысава.

**1495 год, 11 красавіка** – Барысаў і яго воласць узгадваюцца ў грамаце вялікага князя Аляксандра.

**1500 год, травень-чэрвень** – у Барысаве на працягу двух месяцаў два разы спыняецца вялікі князь Аляксандр. Падчас другога спынення ён тут прымае маскоўскіх паслоў.

**1505 год** – рабаванне Барысава і наваколляў татарскімі войскамі пад кіраўніцтвам Махмет-Гірэя.

**1505 год** – утвараецца Віцебскае ваяводства, у склад якога ўключаецца Барысаў.

**1505-06 гады, зіма** – моцная эпідэмія ў горадзе.

**1506-1507 гады** – Барысаў упершыню пазначаецца на карце Еўропы.

**1508 год, чэрвень** – у Барысаве пасля адступлення з Менска некалькі дзён знаходзіцца "бунтарскі" князь Глінскі.

**1513 год** – рабаванне маскоўскім войскам наваколляў Барысава.

**1514 год, лета** – Барысаў падчас вайсковых дзеянняў прызначаны цэнтрам збору войска Вялікага Княства Літоўскага.

**1514 год, 27 жніўня** – пераможны бой пад Барысавам войска К.Астрожскага з маскоўскімі жаўнерамі, у выніку якога было разбіта некалькі палкоў чужынцаў.

**1514 год, канец жніўня-пачатак верасня** – у Барысаве на час вайсковых дзеянняў спыняецца вялікі князь Жыгімонт Стары, закладвае галоўную кватэру. У нашым горадзе ён робіць агляд войска, прымае пасла Папы Рымскага Яна Пізо і прадстаўнікоў Глінскага.

**1518 год** – рабаванне наваколляў Барысава маскоўскім войскам.

**1519 год** – аблога Барысава і рабаванне яго наваколляў маскоўскім войскам падчас рушання на Менск, Вільню. Горад не быў узяты.

**1535 год** – рабаванне наваколляў Барысава маскоўскім войскам.

**1538 год** – рабаванне наваколляў Барысава маскоўскім войскам.

**1542 год** – Барысаў і яго воласць перападпарадкоўваюцца З Віцебскага Віленскаму ваяводству.

**1563 год, 10 жніўня** – наданне Барысаву магдэбургскага права Жыгімонтам Аўгустам.

**1563 год** – утвараецца Барысаўскае староства.

**1564-66 годы** – у Віленскім ваяводстве ўтвараецца Менскі павет, які ўключае ў сябе і Барысаў.

**1567 год, канец года** – Барысаў прызначаецца месцам збору войска Вялікага Княства Літоўскага перад мяркуемым паходам на Полацак падчас Лівонскай вайны.

**Сярэдзіна XV стагоддзя, да 1574 года** – абнаўленне і найлепшым чынам умацаванне барысаўскага замка.

**1577 год** – пацверджанне Барысаву магдэбургскага права Стэфанам Баторы.

**1582 год** – найбольш старыя пісьмовыя звесткі пра існаванне ў Барысаве маста праз Бярэзіну.

**1586 год** – у Барысаве заключаецца пагадненне паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай аб абмене палоннымі, якія былі ўзяты падчас Лівонскай вайны.

**1595 год** – Барысаву пацвярджаецца магдэбургскае права Жыгімонтам Вазай.

**XVII ст., першая палова** – будова ў Барысаве трэцяга замка.

**1604 год** – падчас вайсковых дзеянняў войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з Жыгімонтам Вазай рушаць праз Барысаў.

**1609 год, восень** – Барысаў – адно з месцаў збору войска перад кампаніяй па вяртанню Княству Смаленска.

**1609 год, верасень** – праз Барысаў з войскам рушыць вялікі князь Жыгімонт Ваза.

**1633 год, травень** – праз Барысаў з войскам рушыць вялікі князь Уладзіслаў IV.

**1633 год, верасень** – у Барысаве падчас вяртання з вайсковага паходу спыняецца Уладзіслаў IV.

**1640 год** – Уладзіслаў IV пацвярджае магдэбургскае права Барысаву.

**1642 год, 26 жніўня** – заснаванне ў Барысаве Уладзіславам IV касцёла і яго далейшае будаўніцтва старостам Адамам Казаноўскім.

**1655 год, 13 траўня** – бой пад Барысавам паміж войскамі Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Перамога была на баку маскоўцаў.



*Замчышча і месца гарадскога пасада XII стагоддзя старажытнага Барысава*

**1655 год – травень-чэрвень** – аблога барысаўскага замка маскоўскімі войскамі.

**1655 год, 19 чэрвеня** – штурм і ўзяцце Барысава маскоўцамі.

**1655 год, 10-13 ліпеня** – у Барысаве са сваім войскам знаходзіцца маскоўскі манарх Аляксей Міхайлавіч.

**1655 год, лета** – утварэнне Барысаўскага павета, змена сістэмы кіравання горада.

**1655 год, верасень** – праз Барысаў на радзіму вяртаецца маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч; прыблізна ў той самы час маскоўскі ваявода Чаркаскі робіць у Барысаве агляд перад зімой і роспускам свайго войска.

**1656 год** – аднаўленне барысаўскага замка.

**1657, красавік - 1658, студзень** – моцная эпідэмія ў Барысаве.

**1657 (не пазней чэрвеня) – 1658 (не раней траўня) гады** – існаванне ў Барысаве рэзідэнцыі ўпаўнаважанага маскоўскага цара князя Шарамецева.

**1658 год** – Барысаў на працягу года два разы пераходзіць з рук маскоўцаў да партызан і назад.

**1660 год** – Барысаў прызначаны адным з галоўных пунктаў збору каштоўнасцей, якія падчас адступлення вывозіліся маскоўцамі.

**1660 год** – Барысаў прызначаецца месцам правядзення перамоваў паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Масковіяй. У горад прыязджаюць маскоўскія паслы, аднак, перамовы так і не адбыліся.

**1662 год, 9 ліпеня** – вызваленне Барысава войскамі Вялікага Княства Літоўскага пасля працяглай аблогі горада. Пасля вызвалення быў скасаваны Барысаўскі павет і горад перайшоў да Аршанскага павета Віцебскага ваяводства, адноўлена сістэма кіравання.

**1664 год, 5 траўня** – пацверджанне прывілеяў Барысава Янам Казімірам.

**1672 год** – у Барысаве знаходзілася іезуіцкая місія.

**Сярэдзіна XVII стагоддзя** – найбольш старое сведчанне аб існаванні навучальнай установы ў Барысаве – іезуіцкай школы.

**1697 год** – найбольш старое пісьмовае сведчанне аб яўрэях у Барысаве.

**1698 год, 6 сакавіка** – пацверджанне прывілеяў Барысава Аўгустам II.

**1698 год, 23 чэрвеня** – пасля працяглага канфлікта вакол падаткаў з жыхароў Барысава паміж Сапегам і Агінскім у горад прыбывае камісія, якая прызначана Аўгустам II. Яе мэта – вызначэнне для Барысава падаткаў.

**1699 год, 15 жніўня** – свята ў Барысаве, на якім прысутнічалі знатныя госці з іншых месцаў. Падстава для свята – асвяшчэнне новай царквы.

**1706 год, пачатак** – праз Барысаў праязджае маскоўскі манарх Пётр I.

**1706 год, не пазней красавіка** – размяшчэнне ў Барысаве саюзных маскоўскіх войскаў для спынення шведаў.

**1707 год, жнівень** – у Барысаве падчас праезду спыняецца маскоўскі царэвіч Аляксей.

**1708 год, 16 лютага** – у Барысаў прыбывае з войскам Меншыкаў і знаходзіцца тут пэўны час.

**1708 год, 3 красавіка** – шведскае войска падышло да Барысава і стала на правым беразе Бярэзіны; Супрацьстаянне войскаў па Бярэзіне працягвалася да сярэдзіны чэрвеня.

**1732 год** – найбольш старыя пісьмовыя звесткі аб існаванні ў Барысаве яўрэйскай малітоўнай школы.

**1753 год, 25 сакавіка** – спыненне існавання барысаўскага праваслаўнага Васкрасенскага манастыра з пераходам манахаў у унію. Дакладны час заснавання манастыру невядомы.

**1776 год** – касаванне Барысаву магдэбургскага права.

**1792 год, 14 чэрвеня** – наданне Барысаву Станіславам Аўгустам поўнага магдэбургскага права і гарадскога герба.
**1793 год** – згодна другога падзелу Рэчы Паспалітай Барысаў пераходзіць ў склад Расійскай імперыі.
**1793 год** – утварэнне Барысаўскага павета.
**1794 год, 15 траўня** – спроба пераводу ўсіх трох барысаўскіх уніяцкіх прыходаў у праваслаўе.
**1795 год, 3 траўня** – Барысаву надаюцца правы, якія маюць павятовыя гарады Расійскай імперыі.
**1796 год, 22 студзеня** – пацверджанне Барысаву герба 1792 года маскоўскім манархам.
**1797 год, травень** – праз Барысаў праязджае і спыняецца тут на абед маскоўскі імператар Павел I.
**1797 год** – Барысаў выводзіцца з межаў земляў былога староства.
**1797 год, 18 снежня** – у Барысаве засноўваецца Васкрасенскі сабор.
**1798 год** – пацверджанне Барысаву старых прывілеяў і права на магістрат.
**1800 год** – распрацоўка тутэйшымі архітэктарамі новага плана Барысава, які так і не быў зацверджаны.
**1806-1823 гады** – будаўніцтва цаглянага будынка барысаўскага касцёла, які захаваўся да нашага часу.
**1806-1807 год** – у Барысаве будуецца першы (як прынята лічыць) мураваны дом – магістрат; у перабудаваным пасля вайны 1812 года выглядзе ён дайшоў да нашага часу – так званы "дом казначэйства".
**1810-1811 гады** – будаўніцтва ў Барысаве перадмосных умацаванняў – "батарэяў".
**1812 год, з лютага** – размяшчэнне ў Барысаве дадатковага войска напярэдадні вайны з Францыяй.
**1812 год, 13 ліпеня** – уваход у Барысаў французскага войска.
**1812 год, 14 ліпеня** – вялікія ўрачыстасці ў Барысаве па поваду прыходу ў горад французаў.
**1812 год** – у час падпарадкавання Барысава французам і аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага мяняецца адміністрацыйнае дзяленне і сістэма кіравання, утвараецца Барысаўская падпрэфектура.
**1812 год, 9 – 10 лістапада** – бой на "батарэях" паміж войскам Дамброўскага і маскоўскім войскам.
**1812 год, 11 лістапада** – баі на вуліцах Барысава, у выніку якіх горад пераходзіць да французаў. У Барысаў прыязджае Напалеон.
**1812 год, 15 лістапада** – пераход Барысава да расійскага войска.
**1813 год, красавік** – адбудова ў Барысаве прадмостных умацаванняў (так званых "батарэяў").
**1817 год** – утварэнне пры касцёле прыхадскай школы.
**1829 год** – праца камісіі, якая вызначыла новыя межы горада, крыніцы даходаў і павіннасці яго жыхароў.
**1830 год** – зацверджанне новага плана Барысава, які, аднак, так і не быў рэалізаваны.
**1836-1839 год** – перабудоўваецца фасад барысаўскага касцёла і замест франтона з калонамі ўзводзіцца вежа.
**1839 год, 29 сакавіка** – у Барысаве часова дадаткова размяшчаюцца казакі для падаўлення хваляванняў уніятаў.
**1840 год** – перавод прыхадской школы пры касцёле ў падпарадкаванне міністэрства асветы.
**1843 год** – найбольш старое пісьмовае сведчанне аб будаўніцтве разваднога маста праз Бярэзіну.
**1847 год** – найбольш старое дакументальнае сведчанне пра тое, што частка вуліц Барысава (на той час – тры) пакрыта брукам. Калі ўпершыню ў Барысаве пачалі выкарыстоўваць брук – невядома.
**1847 год** – найбольш старое дакументальнае сведчанне аб выкарыстоўванні на вуліцах горада ліхтароў у цёмны час сутак. Час пачатку прымянення вулічных ліхтароў невядомы.
**1847 год** – выданне Я.Тышкевічам ў Вільні кнігі "Opisanie powietu Borysawskiego…" – першай навуковай працы, якая прысвечана Барысаву і Барысаўскаму павету.
**1848 год** – убачыла свет кніга Ю.Крашэўскага "Borysaw" – першае выданне, якое было прысвечана выключна нашаму гораду.
**1858 год, 10 траўня** – падчас пажару згарэла 90% будынкаў Барысава.
**60-я гады XIX стагоддзя** – рэканструкцыя другога барысаўскага замка і знішчэнне земляных умацаванняў трэцяга замка.
**1862 год** – размяшчэнне ў Барысаве каля 2000 дадатковых вайскоўцаў для падаўлення чакаемага паўстання.
**1863 год, студзень** – утварэнне барысаўскага павятовага паўстанцкага кіраўніцтва.
**1865 год, 14 чэрвеня** – пры барысаўскім Васкрасенскім саборы заснаваецца брацтва.
**1866 год** – адкрыццё ў Барысаве двухкласнай павятовай вучэльні.
**1866 год** – у Барысаве будуецца першая цаглянага сінагога.
**1870 год** – у Барысаве ўтвараецца пажарнае таварыства.
**1871 год, 16 лістапада** – у Барысаў па чыгунцы прыбывае першы цягнік.
**1871 або 1872 год** – у Барысаве уводзіцца ў дзеянне першая паравая вадакачка. Існавала яна пры лакаматыўным дэпо.
**1874 год** – будаўніцтва цаглянага Васкрасенскага сабора, які захаваўся да нашага часу.
**1875 год** – будаўніцтва Каладзеевым маёнтка, будынак якога захаваўся да нашага часу.
**1877 год** – найбольш старыя звесткі пра адкрыццё ў Барысаве друкарні.
**1880 год** – найбольш старыя звесткі аб фотамайстэрні ў Барысаве.
**1892 год** – будаўніцтва цагляных гандлёвых радоў на базарнай плошчы, якія захаваліся да нашага часу.
**1895 год** – адкрыццё ў Барысаве яўрэйскай школы "талмуд-тора".
**1896 год** – будаўніцтва ў Новабарысаве першага праваслаўнага храма – Юльеўскай царквы.
**1896-98 гады** – будаўніцтва Каладзеевым і Свідам двухпавярховых цагляных казармаў у Новабарысаве, якія захаваліся да нашага часу.
**1897 год** – адкрыццё ў Барысаве чатырохкласнага гарадскога вучылішча. Яго будынак захаваўся да нашага часу.
**1897 год** – будаўніцтва ў Барысаве двухпавярховага цаглянага будынка чыгуначнага вакзала, які захаваўся да нашага часу.
**1899 год** – з'яўленне ў Барысаве тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі (як гарадской, так і міжгародняй з Менскам).
**1900 год** – Новабарысаў уваходзіць у склад Барысава.
**1900 год** – у Барысаве быў моцны пажар.
**1902 год** – моцны пажар у Барысаве.
**1905 год** – у Барысаве ўтвараецца метралагічная станцыя.
**1906 год, кастрычнік** – адкрыццё ў Барысаве прыватнай мужчынскай гімназіі.
**1907 год** – у Барысаве пачынаюць працаваць прыватныя навучальныя ўстановы: 4-х класная прагімназія, грамадская мужчынская гімназія. Яго будынак захаваўся да нашага часу.
**1907 год** – каля Васкрасенскага сабора ўзводзіцца цагляная званіца, якая захавалася да нашага часу.
**1908 год** – будаўніцтва маста праз Бярэзіну і шляху да чыгуначнага вакзала.
**1908 год** – утварэнне ў Барысаве "Спажывецкага таварыства", "Хрысціянскага таварыства" і "Попечительства о народной трезвости".
**1909 год, 2 верасня** – у Барысаве ўтвараецца "Общество любителей изящных искуств".
**1910 год** – у Барысаве пачынае дзейнічаць першы кінатэатр – "Ліра".
**1910 год** – закладка ў Барысаве першага парка – зараз сквер па вуліцы Дзяржынскага.
**1910 год** – у Барысаве ўпершыню на вуліцах з'яўляюцца шыльдачкі з іх назвамі.
**1910 год** – пачатак рэалізацыі 15-гадовай праграмы ўсеагульнай адукацыі.
**1910 год, восень** – у Новабарысаве адкрываецца другое гарадское вучылішча.
**1910 год, 13, 25 і 26 траўня** – моцныя пажары ў Барысаве, у выніку якіх было знішчана 260 дамоў.
**1911 год** – будаўніцтва ў Барысаве сінагогі "Хеўрэ Тылім", якая захавалася да нашага часу.
**1911 год, 15-21 снежня** – пачатак існавання і рэгулярнага склікання павятовага земскага сходу.
**1911-1912 год** – у Новабарысаве будуецца першы кінатэатар "Люкс".
**1913 год** – наладжванне першых рэгулярных рэйсаў аўтобусаў паміж Барысавам і чыгуначным вакзалам у Новабарысаве.
**1913 год** – будаўніцтва ў Барысаве цаглянай Вялікай сінагогі, якая з'яўлялася адной з самых адметных ва ўсёй Менскай губерні. Будынак сінагогі са зменёным фасадам захаваўся да нашага часу.
**1913 год** – у Барысаве будуецца і пачынае працаваць буйнейшы ў горадзе сярод дарэвалюцыйных кінатэатраў – "Гігант".
**1913 год, 14 лістапада** – адкрыццё ў Барысаве мужчынскай гімназіі.
**1914 год** – выданне ў Барысаве першага перыядычнага выдання – "Телеграммы Петербургского телеграфного агентства".
**1914 год, 1 ліпеня** – адкрыццё ў Барысаве семінарыі, якая за чатыры гады рыхтавала настаўнікаў для пачатковых вучылішчаў.
**1917 год, сакавік** – утварэнне ў Барысаве Савета рабочых дэпутатаў і Савета салдацкіх дэпутатаў.
**1917 год, травень** – утварэнне ў Барысаве аб'яднанага Савета рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.
**1917 год, кастрычнік** – у Барысаве выходзіць першая тутэйшая газета: "Салдат".
**1917 год, 18 лістапада** – у Барысаве дэкларуецца ўсталяванне савецкай улады.
**1918 год, 21 лютага** – Барысаў пераходзіць у рукі немцаў.
**1918 год** – электрыфікацыя першых дамоў у горадзе.
**1918 год, 2 снежня** – Барысаў пераходзіць у рукі Чырвонай Арміі.
**1918 год, 15 снежня** – пачатак выдання газеты "Известия Борисовского совдепа" (зараз – "Адзінства").
**1919 год, 10 жніўня** – польскае войска займае Новабарысаў.
**1920 год, 25 траўня** – Барысаў пераходзіць у рукі Чырвонай Арміі.
**1920 год, 28-30 траўня** – маштабны абстрэл польскім войскам з "батарэй" Барысава, у выніку чаго яму і яго насельніцтву была нанесена вялікая страта.
**1920 год, 5 чэрвеня** – Новабарысаў пераходзіць у рукі Чырвонай Арміі.
**1920 год** – адкрыццё ў Барысаве першага музея, які прысвячаўся для навучання правільнаму вядзенню сельскай гаспадаркі.
**1922 год** – адкрыццё ў Барысаве педагагічнага вучылішча.
**1924 год, 17 ліпеня** – утворана замест павета Барысаўская акруга. Існавала да 12 красавіка 1927 года. У межах Барысаўскай акругі ўтвараецца Барысаўскі раён.
**1925 год** – аднаўляецца рэгулярны рух аўтобусаў паміж цэнтрам Барысава і чыгуначным вакзалам.
**1925 год, красавік** – утварэнне ў Барысаве акруговага аддзялення літаратурнага аб'яднання "Маладняк". Існавала да сярэдзіны 1927 года.
**1926 год** – утварэнне ў Барысаве першага краязнаўчага музея.
**1926 год** – выдаецца першы нумар тутэйшага літаратурнага часопіса "Маладняк Барысаўшчыны".
**1928 год, красавік** – у выніку разліву Бярэзіны разбурана 180 дамоў, затоплена гарадская электрастанцыя.
**1928 год, жнівень** – адкрываецца парк культуры і адпачынку імя М.Горкага.
**1928 год, снежань** – выдаецца другі нумар краязнаўчага барысаўскага часопіса "Наш раён" (першы нумар часопіса не захаваўся).


*Самы стары будынак Барысава - былая царква Васкрасенскага манастыра; пабудавана ў сярэдзіне XVI I стагоддзя*

**1930 год** – у Барысаве ўводзіцца ў дзеянне цеплаэлектрастанцыя.
**1931 год, вясна** – моцны павадак, у выніку якога знішчаны млын на правым беразе Схі.
**1933 год** – так званы "галодны бунт" у Барысаве.
**1933 год** – утварэнне пры клубе хімікаў тэатра рабочай моладзі (ТРАМ).
**1934 год** – у барысаўскім кінатэатры "Люкс" дэманструецца першы гукавы фільм.
**1935 год** – утварэнне на базе ТРАМа Барысаўскага калгаснага – саўгаснага тэатра. Існаваў у горадзе да 1939 года.
**1941 год, 2 ліпеня** – пераход Барысава пад уладу немцаў.
**1941 год, 20-21 кастрычніка** – у прадмесці Барысава былі расстраляны каля 9000 барысаўцаў – вязняў яўрэйскага гета.
**1944 год, 1 ліпеня** – вызваленне Барысава.
**1950 год, 17 снежня** – у Барысаве адкрываецца для наведвальнікаў краязнаўчы музей, які існуе і зараз. Заснаваны ён быў у 1946 годзе.
**1951 год** – у Барысаве адкрываецца музычная школа.
**1955 год** – заснаванне ў Барысаве медвучылішча.
**1956 год, вясна** – моцны павадак.
**1958 год, вясна** – моцны павадак.
**1958 год** – пачынаецца ўкладка асфальта на праспекце Рэвалюцыі – першай вуліцы ў цэнтры горада.
**1959 год, чэрвень** – у Барысаве адкрываецца шклозаводскі парк. Зараз не існуе.
**1965 год** – будаўніцтва ў Барысаве універмага. Зараз – "Дом гандлю"
**1965 год** – заснаванне ў Барысаве палітэхнікума.
**1974 год** – З Барысава на Менск замест дызеляў пускаюцца электрацягнікі.
**1975 год, красавік** – у Барысаве рэгіструецца 100 000 жыхар горада.
**1978 год** – у Барысаў падведзены прыродны газ.
**1979 год** – у горадзе адкрываецца дзіцячая мастацкая школа.
**1982 год** – у Барысаве пабудаваны Палац культуры.
**1990 год, зіма** – першы альтэрнатыўны мітынг у Барысаве.
**2001 год** – адкрыццё ў Барысаве ля скрыжавання вуліц Будаўнікоў і Гагарына самага буйнога ў горадзе і вобласці універмага.

*М.Мацельскі*


Барысаў сёння





*Былая Вялікая сінагога па сённяшні час застаецца адным з найбольшых будынкаў у гістарычнай частк Барысава. Сучасны яе выгляд (злева) і выгляд пярэдняга фасада Вялікай сінагогі да рэканструкцыі 1962 года (зверху)*

*У Барысаве на сённяшні час ўсе культавыя збудаванні акрамя сінагог вернуты вернікам. Дамагаюцца вяртання будынка адной з былых сінагог "Хеўрэ тылім" і тутэйшыя прыхільнікі іудаізма. Аднак, пакуль безвынікова. Былую сінагогу мяркуецца прадаць з аўкцыёна.*

# Ім не знайшлося месца на свяце горада

*Наша газета ўжо не раз звяртала ўвагу на тое, што ў межах падрыхтоўкі да 900-годдзя Барысава амаль уся ўвага надаецца вонкаваму прывядзенню ў парадак цэнтральных вуліц горада. Старая забудова і гістарычныя мясціны горада, якія па логіцы павінны стаць асноўнымі аб'ектамі на свяце, застаюцца па-за межамі ўвагі яго аргкамітэта. У лепшым выпадку гістарычная забудова горада не рэстаўрыруецца, у горшым – нявечыцца або знішчаецца.*

Больш таго, апошнім часам са спісу тутэйшых помнікаў архітэктуры выкраслены ўсе будынкі, акрамя сабора, касцёла і дома казначэйства. Гэты спіс і раней быў далёка не поўным, але зараз…



*У 1993 годзе таварыства "Святло Меноры" дамаглося ўсталявання ахоўнай шыльды на былой сінагозе "Хеўрэ тылім". Але пад хай сабе і фармальнай ахоўай будынак прастаяў нядоўга. Зараз па сценах будынка пайшлі трэшчыны*

У бліжэйшых нумарах мы мяркуем нагадаць нашым чытачам шэраг найбольш адметных у гістарычным і архітэктурным плане старых будынкаў Барысава, якія вартыя аховы і асаблівай увагі пры святкаванні юбілею горада. Сёння наш расповяд будзе прысвечаны былым сінагогам.

Да падзеяў 1917 года ў Барысаве было 13 сінагог, пяць з якіх былі мураванымі. Будынкі трох з іх захаваліся да нашага часу.

Адзін з будынкаў, двухпавярховы, знаходзіцца па адрасе Камсамольская, 78. Ён дайшоў да нашага часу ў зменёным выглядзе.

Другі (былы Дом піянераў) знаходзіцца на вуліцы III Інтэрнацыянала, 49. Гэта была самая вялікая ў Барысаве і адна з найлепшых і найбольш адметных сінагог у Менскай губерні. Сённяшні яе выгляд не адпавядае першапачатковаму. У 1962 годзе яе фасад быў зменены, чым быў нанесены непапраўны ўрон абліччу будынка. Падчас падрыхтоўкі горада да 900-годдзя мэтазгодна было б надаць яму першапачатковы выгляд. Гэта б дазволіла не толькі аднавіць цікавы архітэктурны помнік, але і здзейсніць гістарычнаму цэнтру горада яшчэ адзін крок да адраджэння сваёй гістарычнай адметнасці. Шкада, што аб гэтым даводзіцца гаварыць не больш чым як аб адной са шматлікіх страчаных магчымасцяў.

Будынак трэцяй сінагогі ("Хеўрэ тылім") знаходзіцца па вуліцы Лапаціна, 41. Гэта адзіны падобны будынак ў горадзе, які захаваў свой першапачатковы фасад. Сінагога была пабудавана ў 1911 годзе вядомым барысаўскім фабрыкантам Б.Саламонавым для навучэнцаў пачатковай яўрэйскай школы "талмуд-тора", што месцілася недалёка адсюль.

Будынкі сінагог з'яўляюцца каштоўнымі помнікамі гарадскога будаўніцтва нашага горада, патрабуюць аховы і рэстаўрацыі.

**М.Мацельскі**






*Сучасны стан будынка сінагогі па вуліцы Камсамольскай, 78. Фасад у бок вуліцы (справа) зменены настолькі, што ў ім ужо нічога не нагадвае аб яго былым прызначэнні. Фасад з адваротнага боку (знізу) яшчэ захаваў асобныя свае старыя рысы.*



# Гульні і песні ўхалодцаў пачатку XX стагоддзя

*У сённяшняй частцы ўспамінаў краязнаўцы з Вялікай Ухалоды І.Клімковіча распавядаецца, як бавілі свой час тутэйшыя жыхары сто год таму*

Кожную нядзелю, за выключэннем вялікіх пастоў, і ў святы моладзь дамаўлялася з якой-небудзь гаспадыняй, каб дазволіла правесці ў яе хаце вячоркі з танцамі.

Моладзі і дзяцей прыходзіла шмат, асабліва зімой. Музыкі былі свае, ухалодскія. Іван Антасевіч – скрыпач і цымбаліст. У каго – гармонік, у каго – бубен. Танцаваў той, хто заплаціў за музыку і за хату. Танцавалі польку, кадрыль, кракавяк. Месца для танцаў у хаце было мала – адначасова выходзілі на танец не больш за чатыры пары.

З вячорак разыходзіліся з песнямі.

Дзяўчаты спявалі свае песні, хлопцы – свае.

Дзяўчаты любілі спяваць беларускія народныя песні, якім вучыліся ад мацярак і бабуль. Гэтыя ж песні спявалі, калі ішлі з поля, з сенакосу. Вясельныя песні былі іншыя.

Хлопцы пелі рускія песні, якія пераймалі з грамафона дзе-небудзь у горадзе, ці вучыліся ў аднавяскоўца, што вярталіся з войска.

Песні былі такія: "Солнце всходит и заходит", "Коробейники", "Было дело под Полтавой" і іншыя.

Адмысловыя святочныя песні "валачэбнікі" і "Масляніцаластавіца" – былі напаўрускія, напаўбеларускія. Першую беларускую песню я пачуў ад настаўніка Мажэйкі "Чаму ж мне не пецъ, чаму ж не гудзецъ".

**Дзіцячыя гульні**

Цацкі пераважна былі самаробныя. Калі здаралася раздабыць глінянага пікуліка (свісток-пеўнік), то гэта было вельмі добра, але такая цацка была недаўгавечнай. Часам паяўляўся губны гармонік, самы маленькі, дзіцячы.

Дзяўчынкі рабілі лялек з анучаў. Хлопцы з лучынак – розныя крыжавіны. На цацкі ішлі пачкі ад запалак, каляровыя чарэпкі. Вясной свісткі рабілі з вярбовай кары.

Гульні – бегалі навыперадкі, хадзілі колам, скакалі ў дажжыну. Гулялі ў чахарду, капыты, качулку, у пыжы (падобна на гульню ў гарадкі).

Зімой гулялі ў сняжкі, ляпілі снегавікоў, каталіся на самаробных драўляных каньках. Сталёвых канькоў не ведалі, лыж не было.

Добра было кулядца на свежым снезе, скакаць з даху хлява ў гурбы.

На сыты страўнік – усе гульні былі добрыя!

**І.Клімковіч**

# Зіхоткія фарбы талентаў

*Неталенавітых дзяцей няма. Існіннасць гэтага сцверджання вельмі добра праілюстравалі вынікі конкурсу на лепшы мастацкі твор, прысвечаны 900-гадоваму юбілею нашага горада.*

*Некалькі дзесяткаў сачыненняў, казак, вершаў, абразкоў, малюнкаў даслалі на конкурс вучні ўсіх школ. Лепшым з лепшых наша газета прадаставіла свае старонкі ў №№ 36, 37. Яны (творы) самыя розныя па зместу, па ўзроўню таленту, але ўсіх іх аб'ядноўвае тэма любві да свайго роднага горада. І гэта галоўны вынік конкурсу: дзеці любяць свой горад, значыць, яны зробяць усё, каб у будучым ён быў яшчэ лепшым.*

*Хочацца яшчэ адзначыць, што дзіцячым талентам вельмі паспрыялі многія дарослыя: бацькі і, вядома ж, выкладчыкі мовы і літаратуры. Назавём некаторых: Нікіціна Л.Б., Цатурава А.А (СШ № 15), Кемпінская І.Д., Целябук Л.М. (СШ № 18), Лапянок Л.М., Буланда А.Л. (СШ № 24), Вараніцкая М.І., Дамарад М.М. (СШ-№ 22), Лімонава Т.Ф., Ярашэвіч Т.М. (політэхнічны ліцэй), Ганец Т.М., Акуліч В.У. (гімназія № 2).*

*Напаследак хочацца сказаць: мы будзем рады адкрываць новыя таленты і ў далейшым. Больш таго, у гэтым бачым адну з галоўных сваіх задач.*

***І.Белы***



Сабор. А.Харанкоў, 7-ы клас СШ № 18

## Барысаву прысвячаецца

Мой родны Барысаў, з даўнейшых часоў
Прыгожы і светлы глядзіш ты наўкол.
Мне ветрык знаёмы ад нашых дзядоў
Такі вось аповяд аднойчы павеў.

Калісь ты толькі нараджаўся,
Драўлянай хатай узнімаўся.
Ты полем быў з мужыцкім плугам,
І вольны быў ты, і ў ланцугах.

Цябе, на жаль, не раз палілі,
Крывёй людской зямлю паілі.
Але здаўна твой дух народны
Не пахіснуўся і быў цвёрды.

А калі мірны час пачаўся,
Народ твой працы не цураўся.
Ён спіну гнуў, рабіў заўзята,
Нёс радасць, шчасцейка у хату.

Стагоддзі мінулі так хутка,
Уперад час бяжыць ціхутка.
З руін узняўшыся, устаўшы
І свае крылы распрастаўшы,

Ты чысты, светлы твар ўзнімаеш,
З надзеяй ўперад пагладаеш.
Я веру, што вясёлка крылы
Над нашым горадам раскіне.

Салоўкі разам заспяваюць,
І вочы радасцю заззяюць.
Мой любы Барысаў, табе дзевяцьсот!
Квітней жа, жыві яшчэ тысячы год!

*Галіна Кішык,*
*9 "В" кл., СШ № 18*

## Горад наш слаўны

Горад наш слаўны, родны Барысаў,
Змалку ўглядаемся мы ў твае рысы.
Дзевяць стагоддзяў асілак стаіць,
Зорка адна ўсё над ім зіхаціць.

Не раз прыходзіў вораг да нас,
Трэба адзначыць, цяжкі быў час.
Але наш народ яму не скарыўся,
Мужна і смела ён з ворагам біўся.

Цяпер наш Барысаў жыве ганарліва,
Ужо юбілей, але ж гэта не дзіва!
Колькі прыпала на горад падзей?!
Нат не злічыць. Ці не так добрадзей?

Усё ж мы ствараем буйныя заводы,
Аднак жа нясуць яны вельмі шкоду.
Усе тут гавораць: "Вось, выпадкова".
А вы паглядзіце, зірніце наўкола!

Патрэбна табе , чалавеча, ўсвядоміць,
Што мы не павінны прыроду нядоліць,
І гэты Чарнобыль – злы чарадзей…
Ці, можа, не так, мой добрадзей?

Упрыгожым мы горад ды кветак насадзім,
Дарогі патроху таксама наладзім,
Бярозак ды клёнаў усюды пасадзім,
Для птушак шпакоўні ў парках прыладзім.

Ды пойдзем уперад, да яркага Сонца,
Дарога ў нас будзе шчаслівая, й бясконцай.
І возьмем з сабою сяброў і сям'ю,
І родную мову, і нашу зямлю!

Барысаў наш родны, Барысаў наш мілы,
Колькі спатрэбіцца нашае сілы,
Мы аддадзім, упэўнен будзь ты,
Каб і ў заўтрашні дзень тут квітнелі сады.

*Аляксандр Гайдук,*
*10 "А", СШ № 18*




## Барысаў

***(верш-мара)***

У промнях вясновага сонца
Наш горад магутны расце,
На зайздрасць заходнім краінам,
Як ружа, квітнее ў расе.

Лугі, сенажаці і нівы,
Азёры, балоты, лясы
Шануе народ наш руплівы –
Не знойдзеш цудоўней красы.

Мой дружа, давай нешта зробім,
Каб ў горадзе ружы цвілі,
Каб словы ўсе гэтага верша
Чысцейшаю праўдай былі.

*Ганна і Таццяна Раманоўскія,*
*5 "В" кл., гімназія №2*

## Любімаму гораду

Я люблю цябе мой горад,
Як магчыма толькі ў свеце,
Самы чысты і зялёны,
Самы родны на планеце.
Я табою ганаруся,
Гавару табе я: "Дзякуй."
Ты – мой лёс, і не патрэбна
Больш Радзімы мне ніякай.
Я жадаю табе шчасця,
Даўгалецця, прыгажосці,
Каб любілі цябе людзі –
Землякі мае і госці.
Дзе б я ні была, усюды
Пра цябе я думаць буду.
І хачу ў дзень нараджэння,
Пажадаць здзяйснення цуда!

*Крысціна Дрозд,*
*9 кл., політэхнічны ліцэй*

## Наш горад, або Жылі-былі два гномы *(казка)*

Жылі-былі ў нашым горадзе два гномы. Аднаго звалі Стары, бо ён кіраваў старой часткай горада. Быў ён стары, абяссілены працай і стагоддзямі. Другога звалі Новы. Ён быў малады, моцны, бо ўзнік не так даўно, ды і па маладосці сваёй ён аж "кіпеў" ад творчых задумак.

У старой частцы горада нічога не рабілася. Тут было брудна і няўтульна, крывыя вуліцы і выбітыя дарогі. Новы папрацаваў на славу: ён пабудаваў чысты і прыгожы куток. Тут тэатр, стадыён… Прыемна прайсціся па чыстых вуліцах, зайсці ў прыгожы магазін.

Ніяк не мог змірыцца Новы з тым, як прыходзіць у заняпад стары горад. Ён кожную раніцу выходзіў на бераг ракі, што падзяляла горад на дзве часткі, і задумліва глядзеў на другі бок.

І вось аднойчы гном Новы не вытрымаў і прапанаваў Старому сваю дапамогу. Ён пабудаваў вялікі мост, і закіпела работа. Нарэшце, горад пачаў квітнець. А маладога энергічнага гнома выбралі мэрам, а Стары (што значыць мудрасць?) нават і не пакрыўдзіўся. Ён зразумеў, што маладосці трэба даваць "зялёнае святло".

Хто не дае мне ў маім аповядзе веры, хай сам праверыць, пабываўшы ў нашым горадзе.

**Барысаў – родны горад мой!**
**Люблю цябе і летам, і зімой!**
**Магутны, вольны і прыгожы**
**Стаіш ты над Бярэзінай.**
**Узвёў цябе ў блакіту высь**
**Найстаражытны князь Барыс.**
**900-годдзе святкаваць мы будзем**
**На радасць гораду і людзям!**

*Эдвард Касцюкевіч,*
*6 "Г" кл., гімназія №2*



Родныя прасторы. Яўгенія Пращукіна, 6-ы клас

## Прывітанне, дарагі дружа!

Пішу табе сёння ў цудоўным настроі, бо хачу расказаць пра свой любімы горад. Сухія звесткі: быў заснаваны ў 1102 г. князем Барысам на бойкім месцы ў абарончых мэтах – сведчаць пра безумоўна багатую яго гісторыю. Але не гэта тэма майго ліста. Я жадаю паведаміць табе пра сучасны, а можа, і будучы Барысаў. Спадзяюся, ты ўсё зразумееш, прачытаўшы верш, напісаны мною.

**Мой горад**

З дзяцінства тваіх вуліц шум
Стаў родным для мяне.
І розум, поўны розных дум,
Ва ўспамінах не міне
Красу зялёную тваю.
Яе я ў памяці нашу,
Халоднай, лютаю зімой
Яна сагрэе мне душу.
Люблю па гораду гуляць,
Паслухаць тыя цуды-зыкі,
Што з "музыкалкі" даляцяць.
Вось дзе сапраўдныя музыкі!
Палац культуры запрашае
Нас на мастацтва свята,
І кожны тут адпачывае,
Тут талентаў багата.
Кінатэатры, парк, музей…
Наведай, калі ласка, дружа.
Ды памятай і наш ліцэй!
Пуцёўкай у жыццё ён служыць
Тым, хто ўпарты, працавіты,
Хто веды хоча тут набыць.
Для іх усе шляхі адкрыты
І шчасця промень зіхаціць.
Я ганаруся сваім домам.
Хай гром грыміць, бліснe маланка…
Мой горад добра ўсім знаёмы.
А я хто? Я – барысаўчанка!

Барысаў – сапраўдны горад. Ды ў кожнага медаля два бакі. Канечне, ёсць у нашага горада адмоўныя рысы: экалогія вымушае жадаць лепшага, высокі ўзровень злачынnасці… Але ж гэта мы, жыхары горада, робім яго такім, і менавіта ад нас залежыць, якое будзе яго заўтра. І калі мы ўсе разам прыкладзем свае намаганні, жыццё ў нашым горадзе абавязкова палепшыцца.

Што ж, бывай, сябра, і не забывай таго, што я табе расказала. Мы, людзі, сваімі рукамі ствараем сваю гісторыю.

З найлепшымі пажаданнямі твая сяброўка Марына.

*Марына Масленнікава,*
*9 "ФМ2"кл., політэхнічны ліцэй*

Усё часцей, хоць не старэю,
Сціскае сэрца ціхі жаль.
Ужо маленства не дурэе –
Салёны смак дарослых хваль.
Усё часцей душа трапеча
І цягне ў горад родны мой.
Дзе яблыня, як маці, лашчыць
Галлём старым нават зімой.
Заўсёды ўпэўнена чакаюць
І любяць там мяне сябры.
Чакае месца мар вячэрніх –
Вялікі мост Бярэзіны.
Цяпер я толькі зразумела
(Такі закон спакон вякоў):
Радзіму мы не выбіраем,
Як колер воч, сваіх бацькоў.
І шанаваць заўжды павінны
Барысаў – я, ты – горад свой.
І кожны з нас сказаць гатовы,
Што самы лепшы – горад мой!

*Насця Адамовіч,*
*11 "А" кл., СШ № 22*

## Мой горад

У краіне Беларусі
Гарадоў прыгожых шмат.
Сярод іх і мой Барысаў.
Я яму сардэчна рад!

І куды не кіну вокам –
Усюды кветкі і сады.
Прыгажэюць з кожным годам
Нашы вуліцы, двары!

Ёсць тут фабрыкі, заводы,
Магазінаў вельмі шмат,
Ходзяць дзеці тут у школы.
У ліцэй, дзіцячы сад.

Дзякую табе, Барысаў,
За шчаслівае жыццё!
Выбачай, калі пакрыўдзіў,
Напісаў яшчэ не ўсё!

*Уладзімір Стахоўскі В.,*
*8 "В" кл., СШ № 24*

ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

# Прэм'ера адбылася

24 сакавіка ў Палацы культуры адбылася прэм'ера. Барысаўскі тэатр "Відарыс" паказаў гледачу сваю новую п'есу "Вужыная карона". Трэба сказаць, што твор гэты напісаў і падрыхтаваў для сцэны рэжысёр тэатра У.Буйко.

Аматары тэатра з удзячнасцю ацанілі новую рэч "Відарыса". Аўтару ўдалося паказаць каларыт, атмасферу Беларусі мінулага стагоддзя. Артысты ж ізноў парадавалі цудоўнай ігрой.

Хацелася б назваць тых, хто стварыў на сцэне цікавыя вобразы: карчмар-іудзей – У.Заблоцкі, Тамаш Манькоўскі – П.Мардвінкін, Мальгрэта Манькоўская – А.Ціцюнова, Януш Манькоўскі – А.Ціцюноў, рыбак Родзька – М.Петрушкевіч, Таўдэнтуры да-дэМуха – А.Гімбурт, Аўрэлія Марагоўская – Л. Марціновіч, Юзаф Марагоўскі – Ю.Карачоў, Сафія Марагоўская – Я.Буйко.

Другое аддзяленне на сцэне, і новыя ўражанні. "Капуснік", – так назвалі яго арганізатары, прадэманстраваў здольнасці артыстаў не толькі да сцэнічнай ігры, але і да песні, і танца.

Было б няправільна не паведаміць чытачам яшчэ пра адно адкрыццё. У фае перад залай наладзіў сваю выставу карцін мастак В.Пчолка. 13 яго прац, падрыхтаваных за апошнія тры гады, пазнаёмілі чытачоў з творчасцю аўтара, яго светаўспрыманнем. Дарэчы, В.Пчолка – таксама артыст тэатра "Відарыс".

Такім чынам, прэм'ера адбылася і ўдалася.

*М.Пучыла*

*В.Пчолка прадстаўляе свае карціны (знізу)*







*Фрагменты са спектакля "Вужыная карона"*





*Любая пастаноўка тэатра "Відарыс" – гэта заўсёды незабыўнае, яркае відовішча*

## Хроніка культурнага жыцця

Барысаўскаму гарадскому аддзелу культуры прысуджана першае месца сярод гарадоў Менскай вобласці за лепшую пастаноўку працы ва ўстановах культуры і мастацтва па выніках 2001 года. Аблвыканкам выдзеліў пераможцам у якасці заахвочвальнай прэміі 3 млн.руб.

* * *

Адзінаццаты раз прайшоў у горадзе фестываль дзіцячай самадзейнай творчасці "Вясёлыя нноткі", у якім бралі ўдзел як навучальныя ўстановы з эстэтычным ухілам,так і агульнаадукацыйныя школы. Журы адзначыла высокі ўзровень падрыхтаваных праграм вучняў 12 СШ, 20 СШ, 24 СШ, 2СШМ, гімназій № 2 і № 3.

* * *

На "Кніжкіным тыдні", які доўжыўся ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы з 27 па 31 сакавіка, дзяцей чакала тэатралізаванае прадстаўленне, інтэлектульныя гульні, экалагічная віктарына. На кніжнай выставе можна было праглядзець літаратуру для дзяцей і падлеткаў, якая маецца ў бібліятэцы.

* * *

У Барысаўскім краязнаўчым музеі працуе выстава старой фатаграфіі. Тут можна пазнаёміцца з унікальнымі фатаздымкамі майстроў светлапісу канца XIX- пачатку XX стагоддзяў, якія захоўваюцца ў фондах музея.

* * *

Грамадскае аб'яднанне "Беларускі патрыятычны саюз моладзі" запрасіла маладых барысаўцаў да ўдзелу ў конкурсе графіці па двух тэмах: "Барысаву–900" і "Маладосць". Эскізы да конкурсу прымаюцца ў гарадскім камітэце БПСМ, сам конкурс адбудзецца ў траўні 2002 г.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Конкурс весялосці

*Нядаўна ў Барысаве адбыліся спаборніцтвы каманд КВЗ навучальных устаноў горада пад агульнай назвай "Барысаў – цэнтр весялосці". У ім удзельнічалі каманды як школ, так і іншых навучальных устаноў горада.*

Але найбольш яркая і адметная гульня адбылася паміж камандай політэхнічнага каледжа (БПТК – былога палітэхнікума) "Дзеці палітэха" і медвучылішча "Неотложка". Пра яе варта сказаць асобна.

Гульня адбылася 13-га сакавіка ў гарадскім Палацы культуры. На ёй прыхільнікі сваіх каманд амаль цалкам запоўнілі залу Палаца. І гэта не дзіва, бо каманды спрачаліся за званне лепшай у горадзе. Паміж імі адбылася сапраўдная "бойка" ў жанры сатыры і гумару. Вельмі ўразіла падтрымка каманды "Дзеці палітэха", якая здолела схіліць на свой бок большасць з тых, хто прысутнічаў у залі. Такой падтрымкі не ведала яшчэ ніводная з каманд у горадзе. Але гэта "Дзецям палітэха" не дапамагло. Наадварот, за празмерную падтрымку залі ў каманды ледзь не знялі бал.

Да фініша каманды дайшлі з разрывам у 0,4 бала. Перамагла каманда медвучылішча. Аднак абедзьве каманды праявілі вялікія здольнасці да сатыры і гумару і маглі б па праву абедзве стаць пераможцамі, калі б гэта не супярэчыла правілам гульні.

Ацэньвала гульню журы ў складзе дырэктара Палаца культуры, прадстаўнікоў БПСМ, Еўралігі КВЗ. Яны адзначылі, што каманда БПТК сыграла лепш, але іх жарты былі далёкімі ад тэмы гульні, што і забяспечыла перамогу "Неотложки". Нягледзячы на гэта, каманду політэхнічнага каледжа запрасілі на паказальныя выступленні ў Менск і Салігорск.

Пажадаем жа абедзьвюм камандам далейшых поспехаў у развіцці КВЗ у Барысаве.

*С.Байрашэўскі*

# Народны каляндар

На пачатку веснавых палявых работ здаўна існаваў у беларусаў традыцыйны земляробчы абрад – заворванне, араннe першай баразны. Першы выхад у поле быў святам. Араты ўставаў на золку, апранаў чыстую кашулю, акрапляў валоў ці коней крынічнаю вадою і ехаў на ніву. З сабою браў хлеб, ваду, яйкі, соль, якія па павер'ю садзейнічалі ўрадлівасці палеткаў. Зрабіўшы 2 – 4 баразны, селянін вяртаўся дадому, дзе яго чакаў накрыты гаспадыняй святочны стол з абрадавым печывам. Земляробы Заходняга Палесся ехалі на поле ўвечары, бралі з сабою ручнік, хлеб, соль, грамнічную свечку.

Палявыя работы пачыналі звычайна ў залежнасці ад шматлікіх прыкмет – цвіцення пэўных раслін, прылёту з выраю птушак, стану глебы, надвор'я. Заворванне існуе і ў сучаснай працоўнай абраднасці.

*М.Пучыла*

# Пасылка для слана

Напрыканцы зімы работнікі і наведвальнікі паштовага аддзялення Залінейнага раёна былі здзіўлены з'яўленнем групы другакласнікаў са сваімі настаўніцамі, якія прынеслі з сабой ёмістую пасылку. На пытанне работнікаў пошты, каму дзеці хочуць адаслаць такую вялікую пасылку, яны адказалі:"Слану!".

А пачалася гэтая гісторыя з цікаўнасці вучняў 2"А" класа 10 сярэдняй школы да жыцця гэтых жывёл. Працуючы ў рамках праекта "Крок за крокам", дзеці чыталі пра сланоў, малявалі плакаты, рабілі аплікацыі з іх выявай. Адзін з вучняў звярнуў увагу на публікацыю ў газеце "Камсамольская праўда" пра тое, што ў Гродненскім заапарку захварэў адзіны ў Беларусі 45-гадовы слон Сурак і яму патрэбна дапамога.

Хлапчукі і дзяўчынкі загарэліся жаданнем дапамагчы жывёліне. А паколькі дзеткі, хварэючы, вельмі любяць з'есці нешта смачнае і салодкае, яны вырашылі, што і слана трэба пачаставаць салодкімі гасцінцамі, каб ён хутчэй папраўіўся. Да таго ж, у газеце было адзначана, што слон надта любіць варэнне з журавін. Сталі думаць, як перадаць гасцінцы слану. "А нашто перадаваць, калі ёсць пошта!" – усклікнуў адзін з вучняў.

І дзеці ўзяліся за справу. Ідэю падтрымалі вучні паралельнага 2"Б" класа. Хлапчукі і дзяўчынкі прыносілі з дому для слана слоікі з варэннем, цукеркі, арэхі, пячэнне, кавалкавы цукар. Атрымалася 10-кілаграмовая пасылка, якую яны, дадаўшы ліст да работнікаў заапарка, адправілі ў Гародню.

Праз два тыдні з Гародні прыйшоў адказ. Дырэктар заапарка пісаў: "Дарагія рабяты! Мы атрымалі вашу пасылку і гасцінцы для слана Сурака. Нас вельмі расчуліў ваш клопат, які вы праявілі да жывёліны. Дзякуй вам за вашу дабрату і міласэрнасць, за любоў да братоў нашых меншых! Вялікі дзякуй класнаму кіраўніку Істамянок Жане Мікалаеўне за арганізацыю гэтай акцыі! Жадаем вам выдатных поспехаў у вучобе і добрага здароўя. Прыязджайце да нас у заапарк на экскурсію. Вы даведаецеся шмат чаго цікавага пра жывёльны свет нашай планеты. Вельмі спадзяёмся, што вы ўбачыце слана Сурака, якому вы дапамаглі".

*І.Дзюкарава.*

# Што лепей: спартыўныя аб'екты зараз ці выцвярэзнікі заўтра?

Па адрасе вуліца Рэспубліканская, 4 можна ўбачыць стары будынак, які быў узведзены ў 1935 ці 1936 годзе. Да 1986 года тут знаходзілася школа № 5. Пасля пабудовы школы № 22 і пераходам у яе ўсіх вучняў і настаўнікаў большую частку будынка займае цэнтр юных турыстаў. Чвэрць памяшканняў займае зараз ДЮСШ-2.

Спартыўная школа мае 2-3 кабінеты для выкладчыкаў баскетбола, футбола і інш. Нягледзячы на сціплы патэнцыял школы, яе выхаванцы з дапамогаю сваіх настаўнікаў пастаянна займаюць у вобласці і ў краіне прызавыя месцы па баскетболу і футболу. Але на старым патэнцыяле працаўнікоў і старым абсталяванні з кожным годам рабіць гэта становіцца ўсё цяжэй.

За апошнія 20 – 25 гадоў у Барысаве для дзяцей не пабудавана ніводнага спартыўнага аб'екта. Сапраўды, у нас, з аднаго боку, цяжкае эканамічнае становішча. З іншага боку мы, магчыма, абыякавыя да здароўя моладзі. Нярэдка ў нашы дні ў старшакласнікаў усе намаганні да баўлення вольнага часу зводзяцца да зваротаў да дзядзек з сінім або чырвоным носам, каб тыя схадзілі ў краму для набыцця "Крыжачка" і пачкі цыгарэт "Прыма".

Адзінай спартыўнай новабудоўляй на працягу апошніх адзінаццаці год з'яўляецца спорткомплекс насупраць завода "Аўтагідраўзмацняльнік". Але будаўніцтва яго прыпынена, і ён паступова разбураецца. Калі яго ўзвядзенне ў бліжэйшы час не будзе скончана, гэты комплекс прыйдзе ў непрыдатны стан і грошы, што былі патрачаны на яго будаўніцтва, будуць канчаткова змарнаваны.

*С.Чарнуха*

# Госць нумара

*Сёння госцем нумара з'яўляецца гулец каманды Барысаў-900 Аляксей Сытаў.*



**Што маглі б Вы сказаць аб гульнях другога круга першай лігі першынства Беларусі па мініфутболу?**

Змагацца стала цяжэй, кожны праціўнік выходзіць гуляць на матчы з намі з мэтай перамагчы. З іншага боку каманда адчула смак перамогі і набыла вопыт барацьбы.

**Як Вы мяркуеце, на апошнім этапе ў красавіку будзе гуляць цяжэй ці прасцей?**

Здаецца, што будзе трошкі цяжэй. На апошні этап выходзяць першыя чатыры каманды, якія набралі найбольш ачкоў. Па сутнасці, мы маем перавагу па ачках перад іншымі камандамі.

**Якім чынам каманда дасягае патрэбнага выніку?**

Трэба шмат працаваць на трэніроўках. У гульнях мы заўсёды выкладваемся да канца.

**Ці ўяўляеце Вы каманду Барысаў-900 сярод мацнейшых клубаў Беларусі?**

Хутчэй усяго, так. Але цікава будзе згуляць з найбольш моцнымі камандамі Беларусі.

**Ці адчуваецца падтрымка гледачоў у часы хатніх гульняў?**

Безумоўна, адчуваецца, асабліва калі прысутнічае шмат прыхільнікаў каманды. Можна сказаць, што падтрымка гледачоў – гэта дадатковы гулец у камандзе.

**Які мяч, што быў забіты Вамі ці сябрамі па камандзе, найбольш запомніўся?**

Я абаронца і ў сезоне забіваў не шмат. Сярод галоў аднаклубнікаў найбольш запомніўся гол, які быў забіты Круглікам у вароты ЦКК у гульні 1/4 фінала кубка Беларусі.

**Ці назіралі Вы за зімовымі алімпійскімі гульнямі?**

Так. Калі быў вольны час, пастаянна сядзеў ля тэлевізара.

**Якую падзею ў Солк-Лейк-Сіці Вы вызначылі б?**

У першую чаргу перамогу хакейнай зборнай Беларусі над Швецыяй у чвэрцьфінале. Гэта стала самай вялікай сенсацыяй гульняў. Але шмат было негатыву. Я маю на ўвазе скандалы з допінгам, прадузятыя адносіны да асобных удзельнікаў.

**Чым яшчэ захапляешся акрамя футбола?**

Акрамя футбола захапляцца чымсьці яшчэ няма часу. Я, як і ўсе ў камандзе, працую на іншай рабоце, потым іду гуляць у футбол.

**Напрыканцы гутаркі хацелася б перадаць камандзе Барысаў-900 выхаду ў вышэйшую лігу.**

Вялікі дзякуй. Хачу яшчэ сказаць добрыя словы заўзятарам за шчырую падтрымку на гульнях, кіраўніцтву клуба, якое стварае ўмовы для поспеху.

*Гутарку вёў С.Чарнуха*

# Напярэдадні футбольнага сезона. Погляд заўзятара

*(Заканчэнне, пачатак на стар. 14)*

зусім іншыя, бо менавіта Ігар сваім бліскучым хет-трыкам на полі барысаўцаў прынёс перамогу менскім дынамаўцам – 3:1, ды і ў апошнім матчы сезона супраць таго ж "Дынама" ён быў, бадай, адным з лепшых гульцоў у складзе пераможцаў. Такім чынам, з шасці магчымых ачкоў у двух сустрэчах з "Дынама" БАТЭ атрымаў "баранку". Цяпер Чумачэнка апынуўся ў БАТЭ, і хочацца спадзявацца, што ў барысаўскім клубе ён будзе гуляць не менш якасна.

Больш прыемныя ўспаміны ўзнікаюць з імем трэцяга навабранца БАТЭ Алега Страхановіча. Яго гол са штрафнога на барысаўскім стадыёне, які стаў другім у сустрэчы маладзёжных каманд Беларусі і Польшчы, можна было назваць сапраўдным упрыгожваннем гульні. Ды і ўвогуле паказчыкі Алега пераконваюць у тым, што ён значна перарос узровень хоць і даволі ўпартага, але не хапаючага зорак з нябёс гульца брэсцкага "Дынама".

"Пакажыце мне вашу паўабарону, і я скажу вам, якая ў вас каманда", – гэта выказванне вельмі добра адлюстроўвае важную ролю гэтай лініі ў кожным клубе. Нельга з дакладнасцю прадказаць, як пройдзе гэта першынство для барысаўскай каманды, але ўжо зараз і журналісты, і заўзятары могуць упэўнена глядзець у будучыню. Скрыпчанка, Чумачэнка, Страхановіч, безумоўна, узмацняць каманду, але не трэба забывацца і пра "ветэранаў" нашай каманды – Аляксандра Лісоўскага, Аляксандра Ермаковіча, Арцёма Ганчарыка, маладога Кабца і вельмі вопытнага Нявінскага. Бачна, што з такім наборам паўабаронцаў, розных па стылі гульні, можна не толькі не баяцца пашкоджанняў падчас гульні, але і зрабіць малюнак гульні ярчэй, а тактыку больш гнуткай, што з'яўляецца не менш важным. Можна выкарыстаць і знакамітую схему "Аякса" 1-4-3-3, накіраваную на агрэсіўны атакуючы футбол, і 1-3-5-2, якая дазваляе захапіць кантроль над цэнтрам поля, і вязкія абарончыя схемы 1-3-6-1 і 1-4-5-1, якія могуць быць выкарыстаны ў сустрэчах з сур'ёзнымі супернікамі ў еўракубках.

Але ўсё гэта толькі прагнозы. Чакаць жа застаецца зусім мала – ужо 12 красавіка БАТЭ згуляе свой першы матч супраць жодзінскага "Тарпеда", якое зноў вярнулася ў вышэйшую лігу, а 21 красавіка на родным гарадскім стадыёне барысаўскі клуб будзе прымаць салігорскі "Шахцёр".

Хочацца пажадаць нашым футбалістам поспеху і запрасіць заўзятараў футбола на гарадскі стадыён 21 красавіка, каб падтрымаць барысаўцаў.

*А.Вашкевіч*

# Вынікі мужчынскага першынства Беларусі па баскетболу

Скончыўся чэмпіянат Беларусі па баскетболу сярод мужчынскіх каманд. Барысаўскі "Папірус" выступіў у ім вельмі дрэнна і заняў месца ў ніжняй частцы турнірнай табліцы. Галоўнай прычынай дрэннай гульні барысаўцаў сталі фінансавыя цяжкасці. У бліжэйшы час марыць аб тым, што "Папірус" будзе гуляць у лізе мацнейшых, няма ніякай падставы.

| | Гульн. | Перам. | Параз. | Ачкоў |
|---|---|---|---|---|
| 1. БК "Менск" | 16 | 14 | 2 | 30 |
| 2. АЗАА | 16 | 13 | 3 | 29 |
| 3. Спартак-ГОСДЮШОР | 16 | 12 | 4 | 28 |
| 4. УОР Гродна-2 | 16 | 11 | 5 | 27 |
| 5. БДУ | 16 | 9 | 7 | 25 |
| 6. Аўтазаводзец | 16 | 6 | 10 | 22 |
| 7. Папірус | 16 | 5 | 11 | 21 |
| 8. РШВСМ | 16 | 1 | 15 | 17 |
| 9. Лакаматыў КіС-2 | 16 | 1 | 15 | 17 |

# Турнір па шашках

З 29 па 31 красавіка ў Доме культуры завода Аўтагідраўзмацняльнік адбылося адкрытае першынство завода па рускіх шашках, якое было прысвечана 900-годдзю Барысава. У ім прынялі ўдзел 33 спартсмены, у тым ліку 2 міжнародных гросмайстры, 9 майстроў спорту і 20 кандыдатаў у майстры спорту. Сярод удзельнікаў былі 4-х разовы чэмпіён СССР, экс-чэмпіён свету Плакхін, экс-чэмпіён свету Валюк, чэмпіён Беларусі Беляеўскі і інш.

Па выніках гульні першым быў Плакхін, другім – Хайнюк, трэцім – Беляеўскі.

*В.Балахоўскі*

# Конкурс для заўзятараў футбола

Працягваецца конкурс для заўзятараў футбола. Сёння вашай увазе прапануюцца пытанні другога тура.

Нагадваем правілы гульні:

1. Прымаюцца толькі арыгінальныя купоны.
2. Пачаць гульню можна з любога тура.
3. У картцы ў прамавугольніках неабходна адзначыць чакаемы вынік першага тайма матча (першы прамавугольнік), другога тайма (другі прамавугольнік) і вынік гульні (трэці прамавугольнік). Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у адпаведным прамавугольніку ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда, указваецца "2", калі нічыя – "X".
4. За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку.
5. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна.
6. Перамогуць тыя, хто за ўвесь час правядзення конкурсу – да кастрычніка 2002 года ўключна – набярэ большую колькасць балаў.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

У другім туры сёлетняга конкурсу неабходна спрагназаваць вынікі таймаў і матчаў трэцяга тура першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 28 красавіка. Тэрмін падачы картак 27 красавіка.

Пераможцаў конкурсу і найбольш актыўных яго ўдзельнікаў чакаюць узнагароды.

Жадаем поспехаў!

## Картка ўдзельніка конкурсу

Другі тур

| | Першы тайм | Другі тайм | Вынік гульні |
|---|---|---|---|
| Днепр-Трансмаш - Маладзечна-2000 | | | |
| Тарпеда Жд - Зорка ВА-БДУ | | | |
| Шахцёр - Лакаматыў-96 | | | |
| Дынама (Мн) – БАТЭ | | | |
| Дынама (Бр) - Белшына | | | |
| Тарпеда МАЗ – Гомель | | | |
| Нёман-Белкард - Славія | | | |

Імя

Прозвішча

Умоўная назва
(указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека)

Адрас

Тэлефон

# Каляндар гульняў

*12-га першынства Беларусі па футболу (першы круг), кубка Беларусі, еўракубкаў і матчаў зборнай Беларусі.*

Падчас першай паловы чэмпіяната Беларусі па футболу плануецца наступны каляндар гульняў.

***Тур 1***

*12 красавіка, пятніца*
Зорка-ВА-БДУ (Менск) – Маладзечна-2000
Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Лакаматыў-96 (Віцебск)
Тарпеда (Жодзіна) – **БАТЭ (Барысаў)**
Шахцёр (Салігорск) – Белшына (Бабруйск)
Дынама (Менск) – Гомель
Дынама (Берасце) – Славія (Мозыр)

*13 красавіка, субота*
Тарпеда-МАЗ (Менск) – Нёман-Белкард (Горадня)

***Зборныя***

*17 красавіка, серада*
Таварыскія матчы нацыянальных і моладзевых зборных: Венгрыя – Беларусь

***Тур 2***

*21 красавіка, нядзеля*
Маладзечна-2000 – Нёман-Белкард
Славія – Тарпеда-МАЗ
Гомель – Дынама (Берасце)
Белшына – Дынама (Менск)
**БАТЭ** – Шахцёр
Лакаматыў-96 – Тарпеда
Зорка-ВА-БДУ – Днепр-Трансмаш

***Кубак-01/02***

*25 красавіка, чацвер*
Першыя матчы 1/4 фінала
Лакаматыў (Менск) – Дынама (Берасце)
Хімік (Светлагорск) – **БАТЭ**
Гомель – Дынама (Менск)
Шахцёр – Славія

***Тур 3***

*28 красавіка, нядзеля*
Днепр-Трансмаш – Маладзечна-2000
Тарпеда – Зорка-ВА-БДУ
Шахцёр – Лакаматыў-96
Дынама (Менск) – **БАТЭ**
Дынама (Берасце) – Белшына
Тарпеда-МАЗ – Гомель
Нёман-Белкард – Славія

***Кубак-01/02***

*2 траўня, чацвер*
Паўторныя матчы 1/4 фінала
Дынама (Берасце) – Лакаматыў (Менск)
**БАТЭ** – Хімік
Дынама (Менск) – Гомель
Славія – Шахцёр

***Тур 4***

*6 траўня, панядзелак*
Маладзечна-2000 – Славія
Гомель – Нёман-Белкард
Белшына – Тарпеда-МАЗ
**БАТЭ** – Дынама (Берасце)
Лакаматыў-96 – Дынама (Менск)
Зорка-ВА-БДУ – Шахцёр
Днепр-Трансмаш – Тарпеда

***Кубак-01/02***

*10 траўня, пятніца*
Першыя паўфінальныя матчы

***Тур 5***

*14 траўня, аўторак*
Тарпеда – Маладзечна-2000
Шахцёр – Днепр-Трансмаш
Дынама (Менск) – Зорка-ВА-БДУ
Дынама (Берасце) – Лакаматыў-96
Тарпеда-МАЗ – **БАТЭ**
Нёман-Белкард – Белшына
Славія – Гомель

***Зборныя***

*17 траўня, пятніца*
Турнір нацыянальных зборных "LG Cop" (Масква)
Расія – Беларусь

***Кубак-01/02***

*18 траўня, субота*
Паўторныя паўфінальныя матчы

***Зборныя***

*19 траўня, нядзеля*
Турнір нацыянальных зборных "LG Cop" (Масква)
Фінал або матч за трэцяе месца з удзелам зборнай Беларусі

***Тур 6***

*22 траўня, серада*
Маладзечна-2000 – Гомель
Белшына – Славія
**БАТЭ** – Нёман-Белкард
Лакаматыў-96 – Тарпеда-МАЗ
Зорка-ВА-БДУ – Дынама (Берасце)
Днепр-Трансмаш – Дынама (Менск)
Тарпеда – Шахцёр

***Кубак-01/02***

*26 траўня, нядзеля*
Фінал

***Тур 7***

*30 траўня, чацвер*
Тарпеда-МАЗ – Зорка-ВА-БДУ

*31 траўня*
Шахцёр – Маладзечна-2000
Дынама (Менск) – Тарпеда
Дынама (Берасце) – Днепр-Трансмаш
Нёман-Белкард – Лакаматыў-96
Славія – **БАТЭ**
Гомель – Белшына

***Тур 8***

*4 чэрвеня, аўторак*
Маладзечна-2000 – Белшына
**БАТЭ** – Гомель
Лакаматыў-96 – Славія
Зорка-ВА-БДУ – Нёман-Белкард
Днепр-Трансмаш – Тарпеда-МАЗ
Тарпеда – Дынама (Берасце)
Шахцёр – Дынама (Менск)

***Зборныя***

*8 чэрвеня, субота*
Таварыскі матч моладзевых зборных: Латвія – Беларусь

***Тур 9***

*12 чэрвеня, серада*
Дынама (Менск) – Маладзечна-2000
Дынама (Берасце) – Шахцёр
Нёман-Белкард – Днепр-Трансмаш
Славія – Зорка-ВА-БДУ
Гомель – Лакаматыў-96
Белшына – **БАТЭ**
13 чэрвеня, чацвер
Тарпеда-МАЗ – Тарпеда

***Тур 10***

*18 чэрвеня, аўторак*
Маладзечна-2000 – **БАТЭ**
Лакаматыў-96 – Белшына
Днепр-Трансмаш – Славія
Тарпеда – Нёман-Белкард
Шахцёр – Тарпеда-МАЗ
Дынама (Менск) – Дынама (Берасце)

*19 чэрвеня, серада*
Зорка-ВА-БДУ – Гомель

***Еўракубкі***

*22-23 чэрвеня, субота-нядзеля*
Кубак Інтэртота
Першыя матчы 1-га раўнда

***Тур 11***

*25 чэрвеня, аўторак*
Дынама (Берасце) – Маладзечна-2000
Тарпеда-МАЗ – Дынама (Менск)
Нёман-Белкард – Шахцёр
Славія – Тарпеда
Гомель – Днепр-Трансмаш
Белшына – Зорка-ВА-БДУ
**БАТЭ** – Лакаматыў-96

***Еўракубкі***

*29-30 чэрвеня, субота-нядзеля*
Кубак Інтэртота
Паўторныя матчы 1-га раўнда

***Тур 12***

*2 ліпеня, аўторак*
Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96
Зорка-ВА-БДУ – **БАТЭ**
Днепр-Трансмаш – Белшына
Тарпеда – Гомель
Шахцёр – Славія
Дынама (Менск) – Нёман-Белкард
Дынама (Берасце) – Тарпеда-МАЗ

***Рэзервовы дзень***

*5 ліпеня, пятніца*

***Еўракубкі***

*6-7 ліпеня, субота-нядзеля*
Кубак Інтэртота. Першыя матчы 2-га раўнда

***Тур 13***

*9 ліпеня, аўторак*
Тарпеда-МАЗ – Маладзечна-2000
Нёман-Белкард – Дынама (Берасце)
Славія – Дынама (Менск)
Гомель – Шахцёр
Белшына – Тарпеда
**БАТЭ** – Днепр-Трансмаш
Лакаматыў-96 – Зорка-ВА-БДУ

***Еўракубкі***

*13-14 ліпеня, субота-нядзеля*
Кубак Інтэртота. Першыя матчы 2-га раўнда

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – вёска на Барысаўшчыне; 2 – вёска па Барысаўшчыне; 3 – тутэйшая баскетбольная каманда; 4 – этнафальклорнае аб'яднанне з Мётчы; 5 – спеўны фальклорны калектыў з Мётчы; 6 – фальклорны калектыў з Вяляцічаў; 7 – вёска на Барысаўшчыне; 8 – вёска на Барысаўшчыне; 9 – барысаўскі фабрыкант пачатку XX стагоддзя; 10 – вуліца ў Барысаве; 11 –гулец футбольнага клуба БАТЭ; 12 – вёска на Барысаўшчыне, 13 – фальклорны калектыў з Навасёлак (Глівінскіх); 14 – рака на Барысаўшчыне; 15 – фальклорны калектыў з Вяляцічаў.




Адказы на крыжаванку, што змешчана ў "ГБ" № 3(36): 1 – Глеб; 2 – Каладзееў; 3 – Урыцкага; 4 – Прыданкі; 5 – Бага; 6 – Люкс; 7 – Мопраўская; 8 – Асяцімскі; 9 – Лаўнічанка; 10 – Свіда; 11 – Шорах; 12 – Пчэльнік, 13 – Бытча, 14 – Грошы, 15 – Мазынскі, 16 – Гагарына.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**7:** 1111115, 1190011, 4321098, 4450796, 4864761, 5640551;

**5:** 12345, 15201, 15445, 15556, 17561, 18667, 23456, 25461, 44461, 45451, 46874, 47452, 51214, 52588, 54442, 55257, 58888, 64919, 65459, 68314, 79787, 85611, 89101, 97542;

**4:** 0210, 1155, 1161, 1284, 1424, 1486, 1497, 1547, 1557, 1690, 2542, 2587, 4003, 4045, 4121, 4162, 4247, 4277, 4424, 4458, 4518, 4542, 4561, 4567, 4596, 4644, 4687, 5122, 5469, 5485, 5489, 5541, 5554, 5580, 5781, 5975, 6164, 6248, 6456, 6645, 7421, 7455, 7559, 7687, 7871, 8244, 8596, 8717, 8745, 8918, 8954, 9000, 9325, 9515;

**3:** 124, 142, 149, 158, 215, 258, 411, 412, 415, 424, 441, 442, 442, 454, 456, 467, 469, 474, 514, 514, 544, 554, 554, 555, 612, 612, 616, 644, 715, 765, 773, 817, 890, 901;

**2:** 12, 23, 33, 43, 56, 56, 64, 67, 72, 72, 75, 91, 92, 97.







# Ці ведаеце вы, што...

У 1953 годзе ў Барысаўскім раёне было 90 школ і два дзіцячых дамы.

У школах навучалася 13887 вучняў, у дзіцячых дамах выхоўвалася 250 дзяцей-сірот.

У школах раёна на той час працавала 540 настаўнікаў.

У 1953 годзе ў Барысаўскім раёне было:
21 хата-чытальня;
4 вясковыя бібліятэкі;
1 раённая бібліятэка;
1 Дом культуры;
10 калгасных клубаў.

# З народнага гумару

Аднойчы пасварыліся дзед ды баба і перасталі размаўляць адзін з другім. Але ж доўга не вытрымалі. Першая пачала баба:
- Стары, ці ты ўчора чхнуў?
- А што? - панура адказвае ён.
- Будзь здароў! - ласкава кажа старая.
- Дзякую.
Гэтак і памірыліся.

* * *

- Вось, цётка, будзеш даваць гэта лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.
- А божа ж мой! Дзе ж я вазьму столькі лыжак. У мяне **іх** толькі чатыры.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



# З народнага гумару

- Ці добра ж варыць страву твая маладая жонка?
- Варыць то добра, але мне есці цяжка.

* * *

Жонка. Заўтра дваццаць пятыя ўгодкі нашага вяселля, ці не належала б на гэта свята зарэзаць курыцу?
Муж. Добра, даражэнькая, але ці ж курыца ў гэтым вінаватая?

* * *

Спаткалі чалавека разбойнікі. Адзін кажа:
- Зарэжам.
Другі кажа:
- Павесім.
А гэты чалавек:
- Рабіце, - кажа, - людзі добрыя, як вам лепей.

* * *

Івана выбралі старшынёй.
- Шкада мне цябе, Іване, - кажа да яго кум.
- Чаму?
- Ды вось ты дагэтуль быў добрым працавітым гаспадаром, а цяпер ты зрабіўся гультаем, п'яніцай і прападзеш за нішто.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*



## Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 3(36)



ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 18.30 01.04.2002 г.
Замова № 2270
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*